PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 37 (2052) ГОД XL БЕЛАСТОК 10 ВЕРАСНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Міра Лукша*

## Беларусь прыйшла!



*Дарафей Фёнік з бойкім беларускім кацянём.*

Было слова на вандроўку: *Крылы даны не толькі арлу, мае іх вецер і казка і мая думка, што паліць сум і дорыць шчасце* пяра Уладзіміра Гайдука з Тарнопаля. І ў ягоную вёску, у прысёлак Полыме сёлета завітала „Жывое Слова" з Менска, якога акцёры ўжо пяты раз наведваюць Беласточчыну. Цяпер яны ў Нараўчанскай гміне. На працягу тыдня (20—26 жніўня) тэатр „Жывое Слова" наведае Нараўку, Масева Старое і Новае, Ланчына, Альхоўку, Забрады, Прэнты, Пасекі, Баравыя, Баб'ю-Гару, Медзвядзі, Семяноўку, Тарнопаль, Полыме, Навіны, Дуброву і Старое Ляўкова. Увесь час з імі — Марыся Аліфер з Ляўкова і „Балагану", якая вучыцца ў Менску і выступае ў Беларусі разам з „Жывым Словам" ды Янка Хадакоўскі з Крыніцы, якому трэба ўсё ехаць па справах, але не пакідае ён вандроўнікаў разам са сваім аўто (прыдаецца, Марыся і Насця намулялі ножкі...). Вандроўнікаў — шаснаццаць чалавек.

*Ізноў мы ў дарозе Ізноў нясуць нас крылы нашых думак, нашых сэрцаў, нашага суму, нашага шчасця. Нясуць нас па роднай зямлі, да родных людзей, з якімі хочам падзяліцца нашым сэрцам, нашай любоўю. Бо чым мы горшыя за тых птушак, за таго арла, якіх спевам, якіх шчэбетам, палётам так цешацца людзі?* — гэта словы з „газэткі", якую выдалі *сімпатыкі вандровак „Парнасу", „Жывога Слова"* ды *Вані* (Морданя). Вандроўнікаў фінансава ўспамаглі перш за ўсё Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы ды Фонд Сораса. Ваня Мордань успамінае час, калі „Парнас" „о сухім пыску" бадзяўся па Беласточчыне. „Дзесяць гадоў таму, узімку 1985 г. у бельскім беларускім клубе нараджалася думка пра „Парнас", — чытаем у „газэтцы". — Ваня неяк здолеў сваёй настойлівасцю рассеяць у нас безнадзею і ў сакавіку 1986 года першы раз мы выступілі. Праз год „Парнас" пайшоў у першую вандроўку. З тых часоў шмат змянілася. Але вось дванаццаты раз сустракаемся ў дарозе".

Серада, 23 жніўня, падвячорак. Семяноўка. Па асветленым пахілым сонцам асфальце цяжка ступаюць каровы поўныя малака, за імі гаспадары пешшу альбо на роварах, далей цягнуцца доўгія цені. Сяляне ўпраўляюцца з дабыткам. Цётка Жэня едзе на ровары з крамы. Сустракаюць яе ля брамкі авечка, сабачка ды коцік. Цётка паведамляе мне:

— Да нас беларусь ідзе. Сёння ўвечары выступаць будуць. Уся вёска прыйдзе, не можам ужо дачакацца. Хутка ўпраўляцца трэба.

Сапраўды — ідзе тая „беларусь". Ад Баб'яй-Гары, урассыпку, ідуць мае знаёмыя. За імі пляцецца босы Алег Клімовіч (ён сёння не ў змозе выступіць, пэўна).

Хутка цямнее — гэта ж лета ўжо канчаецца. Пад святліцу-„клуб", якое сцены страцілі залацісты колер свежае драўніны, сыходзіцца ды з'язджаецца публіка. Маладыя і старыя, семяноўцы ды прыезджыя. За адчыненымі вокнамі відаць галовы тых, каму месца не хапіла ў зале. Канцэрт вядзе Юрка Чарэнка — ён жа і кіраўнік, і самы старэйшы ў групе акцёраўстудэнтаў.



*Марыся і Віталік.*

Што найбольш усім падабаецца? І песні ў выкананні красунь, якіх прыгожыя галоўкі асвятляе зверху голая лямпачка, і Журавель, які „ляпу-чапу" ходзіць да Чаплі прасіцца замуж і цэлы за яго, сцэнкі з малаадукаванай Доктаркай ды Экзаменатарам... І вершы, у час гучання якіх аціхае зала, быццам хто мак пасеяў — Уладзіміра Караткевіча, Алеся Дудара, Анатоля Сыса. І мініяцюра Юркі Генюша пра чароўны дзіцячы свет, і гумарэска пра дзяўчынку, якой мара — стаць хлопчыкам, і поўная тэмпераменту сварка дзвюх цётак, якая іскрыцца сакавітай народнай лаянкай... Нават дзеці рэагуюць на беларускае слова, хаця паміж сабою, я чула, размаўлялі папольску. „Źle!" — смяюцца дзеткі, падказваючы „Студэнтцы", якая не ведае табліцы множання. „Канчаюцца" ад смеху цёткі, трымаючыся за жываты, рагочуць дзядзькі, паўтараюць больш меткія фармулёўкі. „Ну, маладцы!" Хто ведае словы, спявае за Дарафеем Фёнікам словы „Песні вясёлых жабракоў". Адзін маладзён з публікі, паўголы, на якога пачынаюць сыкаць і азірацца гледачы, аж перапоўнены энтузіязмам і патрыятычным духам. На словы Юркі пра беларусаў, „якія яны сапраўды ёсць", крычыць ён: „Мы ж ведаем, якія сапраўды ёсць беларусы! Мы ж самі — беларусы!" А пасля: „Мы з вамі!"

— „Чаму так рэдка да нас выступаць прыязджаеце? Мы ж так чакаем!" — пытаецца мяне жанчына са знаёмым мне тварам, узяўшы мяне за члена тэатра. Даўно мы не бачыліся, праўда, з таго часу, калі я хадзіла ў семяноўскую школу. „Наша Мірачка!" — кажа цётка Жэнька з Пасек, а мне неяк цёпла робіцца каля сэрца.

*Працяг на стар. 8*



*І старыя і малыя прыбылі паглядзець „выстэмпы".*

*Сакрат Яновіч*

## Quo vadis, Аляксандр Лукашэнка?

Рэферэндум Лукашэнкі, вядома, не выклікае ў мяне радасці. Тым не менш гляджу я цяпер нават з некаторай забаваю на гэтае жаданне перапрашаць Маскву за тое, што Рэспубліка Беларусь захацела пабыць самастойнаю. Пагрозлівы ўсё ж, праўда, інцыдэнт, які, аднак, не перарос у гістарычную падзею.

Такою падзеяй застанецца, напэўна, само ўзнікненне Рэспублікі Беларусь. У гэтым кантэксце грамадска-палітычная прыдатнасць рэферэндуму нагадвае фальклорныя варыяцыі на матывах тых самых спеваў. Яно дакументальна аб'ектывізавала толькі фактычны стан духа насельніцтва Беларусі. Не паслужыць і працягу савецкай улады ў ёй. Не плебісцытныя фактары вырашаюць трываласць уладыцтва. Антыэканоміка дзесяцімільённай дзяржавы ў цэнтры Еўропы — гэта не тыя маштабы і не тое месца, каб мог замацавацца (беларускі) востраў сацыялізму. Без чырванеўшай Расіі.

Сітуацыя здзіўляюча простая: Рэспублікай Беларусь як тыпова сацыяльнай усяго дзяржаваю кіруе такая ж эліта, духоўна метысізаваная. Нацыянальна-беларуская арыентацыя ў ёй асуджана на маргінальную апазіцыйнасці. Падлягае палітычнай ліквідацыі. Дапушчальны ўсплыў яе на паверхню публічнага жыцця няйначай як у ролі патрэбнага рэжыму, час-часом, ворага. Не забываючы, што дэмакратыя немагчымая без дабрабыту — у Беларусі доўга не будзе яе. Бедны люд верыць у цуды: у добрыя намеры шэрыфа, у шанц на хлеб без працы (адабраўшы яго багацеям). Гэта не спецыфіка Беларусі: басота ва ўсім свеце такая самая.

Пяць тысяч гадоў запісанай гісторыі чалавецтва стала акцэнтуюць прымат узроўню працы, дынамікі прадукцыі. Не першабытная галота ў пушчах і пустынях стварала філасофію, матэматыку, ці літаратуру. Савецкая імперыя таму так коратка праіснавала — на працягу раптам аднаго чалавечага жыцця — бо пабудавана яе на анахранічных падставах, на сярэдневяковай службе працы для ідэалогіі, а не наадварот. Славутыя заклікі: *Датэрмінова выканаем пяцігодку — у гонар З'езда Партыі!* Што і чаму тут павінна быць падпарадкаванае? Выходзіла на тое, што партыйнасць высілася над працавітасцю. Бальшавізм над маральнасцю, паслядоўна.

Гэтыя універсальныя анамаліі і прадвызначаюць нядоўгавечча, таксама, уладнаму экіпажу першага прэзідэнта. Паратунак яму адзін: прыдаць вытворчасці разгону. Ды чым жа ён прыдасць? Ненатуральнымі гаспадарцы камандамі? Трэба эканамічных рэформаў. А яны, як рэвалюцыя, якая з'ядае свае дзеці. Каму ахвота лезці ў зубы Дракону грамадскіх пераменаў? Усякі злом эпох, бы землятрус, характарызуецца

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Zachodnie środki masowego przekazu prześcigają się w poszukiwaniu polskiej egzotyki. Należy do niej nieodmiennie prezydent-elektryk, partia chłopska rodem z XIX stulecia, operetkowe partie prawicy, liberałowie przebrani za socjaldemokratów, czy lewacy w roli socjalistów.*

*W świadomości Niemców Polacy są nadal drobnymi geszefciarzami, którzy nawet mając pieniądze nie potrafią się oprzeć pokusie zarobienia paru marek. Polaków można spotkać wszędzie: od Północnej Australii, przez Tajlandię, Singapur, po wyspy Bahama, Chile i Brazylię. Nie byłoby problemu, gdyby widać nas było tak, jak Japończyków — skromnych, czystych, uprzejmych. Polaków dostrzega się jednak dlatego, że nie sposób nas nie zauważyć. Ponieważ rzadko używamy kart kredytowych, płacimy gotówką z nonszalancją parweniusza. W większości krajów robi to złe wrażenie, gdyż kojarzy się z nielegalnymi interesami. Hochsztaplerom nikt przecież nie wydaje kart kredytowych.*

*Robimy wokół siebie raban, posługujemy się ordynarnym słownictwem i nadużywamy alkoholu. Traktuje się nas uprzejmie — płacimy bowiem niemałe pieniądze, ale bez serdeczności. Z politowaniem przymyka się oczy na nasze niechlujstwo, traktowanie pokojów hotelowych niczym baraków, brudne wanny po kąpieli, rozrzuconą bieliznę, nieumiejętność włączenia klimatyzacji czy otwarcia magnetycznego zamka.*

*Wprost, nr 34*

* * *

*Мяркуючы па расейскай прэсе апошніх часоў, найбольш уплывовыя колы расейскай кіраўнічай эліты занепакоены лукашэнкаўскімі планамі „захапіць Крэмль". З прэзідэнта Беларусі Лукашэнкі расейская прэса стварае вобраз блазна, паказваецца яго ў розных галаўных уборах: ад шапкі Манамаха да шапкі скамароха. У Расеі да прэзідэнцкіх выбараў ніякіх рэферэндумаў пра аб'яднанне з Беларуссю не будзе, а гэта значыць, што Лукашэнка ў прэтэндэнты на супольнага прэзідэнта Расіі і Беларусі не трапіць. Калі Лукашэнка паспрабуе заблытацца ў расейскую палітыку, яму проста зробяць сапраўднае Лёзна (у Лёзне на будынку адміністрацыі невядомыя асобы павесілі бел-чырвона-белы сцяг — рэд). Крамлёўскія палітыкі не хочуць запалохаць Лукашэнкі, ягонымі рукамі цягнуць Беларусь у Расею і адначасова дазваляюць яму марыць пра пост гаспадара Крамля.*

*Свабода, н-р 32*

* * *

*Uszanowanie praw większości katolickiej do obiektów klasztornych w Supraślu jest wyznacznikiem praworządności w Rzeczypospolitej,* — пішуць каталіцкія вучоныя, палітыкі і дзеячы з Беласточчыны.

*Gazeta Współczesna, nr 160*

Паводле іх згодным з правам лічыцца толькі тое, што не пярэчыць інтарэсам Каталіцкага касцёла. Мясцовым каталіцкім іерархам вельмі спадабаўся праваслаўны манастыр у Супраслі, тады, зразумела, чаму, паводле каталіцкіх палітыкаў, пакінуць яго ў руках уласнікаў абазначае парушыць заканадаўства Рэчы Паспалітай. Сам чорт лепшых аргументаў не знайшоў бы.

* * *

*Setki tysięcy Serbów opuściło Krajinę po zajęciu jej przez Chorwatów. Spróbujmy zrozumieć, co to znaczy, że nie tysiące ludzi, nie dziesiątki tysięcy, ale cały naród pakuje w pośpiechu nędzne dobra i rusza na wygnanie. Oznaczać to może tylko jedno, że od pozostania w ojczyźnie wszystko było lepsze. A z tego współczesna wrażliwość wysuwa tylko jeden wniosek: że w ojczyźnie czeka ich zagłada. Jest oczywiste, że Chorwaci Serbów w Chorwacji nie chcą. Serbski exodus jest dla nich spełnieniem najskrytszych marzeń. W Chorwacji nie zmuszają nawet byś był Chorwatem. Wystarczy byś przestał afiszować się, że nie jesteś Chorwatem.*

*Gazeta Wyborcza, nr 152*

Што за талерантная нацыя тыя харваты. Але адкуль нам на Беласточчыне вядомы такі тып талерантнасці?

* * *

*Ужо трэці тыдзень у мястэчку Каханоўка Талачынскага раёну на трубе заводу будматэрыялаў лунае бел-чырвона-белы сцяг. Невядомы смяльчак умацаваў яго напярэдадні Дня Незалежнасці. Мясцовыя ўлады пакуль не знайшлі ахвотніка, які б згадзіўся ўлезці на 50-метравую вышыню коміна па іржавых скобах.*

*Свабода, н-р 32*

Небяспечнай цяпер стала праца міліцыянераў у Беларусі. Трэба знімаць нацыянальныя сцягі з найвышэйшых пунктаў у гарадах.

* * *

*Trudno obronić tezę wysuwaną przez służbę zdrowia, że nadmiar pracy uniemożliwia traktowanie rodzących kobiet po ludzku. Dla większości pobyt w szpitalu był koszmarem. I nie chodzi już o zwykłą obojętność i bezduszność personelu, lecz wręcz o manifestowaną wrogość, arogancję, chamstwo. Co trzecia matka przechodzi głęboki uraz psychiczny związany z pobytem w szpitalu położniczym.*

*Gazeta Wyborcza, nr 194*

* * *

*Inwazja zagranicznego kapitału to jedna sprawa, ale obrona przed nią może być przesadzona. Wedle Prymasa Glempa „od Zachodu grozi nam tresura obywateli, która czyniłaby z nich manekiny i demoralizacja w zabiegach o uzwierzęcenie człowieka poprzez zapewnienie mu łatwej pracy, jadła, rozrywki i seksu". Zachód jednak to nie tylko łatwa praca, jadło, rozrywka i seks, to także robota i przedsiębiorczość traktowane poważnie, po protestancku, a potem hamburger i spać. Zachód to także wielka aktywność społeczna, bezinteresowność i zaangażowanie, czego w Polsce przeważnie nie ma.*

*Polityka, nr 34*

* * *

*Mariola jest szefową ekskluzywnej agencji towarzyskiej w Gdyni. Tylko w tym roku przyszło do niej kilkanaście licealistek i studentek. Mariola zmienia personel co miesiąc. Klienci nie lubią monotonii — twierdzi. Przeciętna dziewczyna zarabia u Marioli 5 tysięcy zł. (50 mln) miesięcznie. Dziewczyny, które do niej przyszły, szybko zaczynają traktować pracę jako główne zajęcie, rzucają naukę, studia, rezygnują z etatu w zakładzie. Niektóre pracują z aprobatą męża lub rodziców.*

*Wprost, nr 33*

# З мінулага тыдня

Пасля дымісіі шэфа прэзідэнцкага кабінета **Мечыслава Вахоўскага** прэзідэнт **Лех Валэнса** назначыў міністрам стану **Анджэя Закшэўскага**, які цяпер з'яўляецца найвышэйшым рангам чыноўнікам у канцылярыі прэзідэнта РП і мае права выступаць ад імя прэзідэнта. Міністр Анджэй Закшэўскі кіруе Бюро палітычнай абслугі прэзідэнта і ўзначальвае Раду па справах польска-яўрэйскіх адносін.

**Заклік** у справе асуджэння арыштаў і рэпрэсіравання дзеячаў **Свабодных прафсаюзаў у Беларусі** накіравала ўраду, парламенту і прэзідэнту РП Управа паўднёвавелькапольскага рэгіёна „Салідарнасці" ў Калішы.

**Сеймавая камісія па справах транспарту, сувязі, гандлю і паслуг** звярнулася да міністра сувязі з патрабаваннем высветліць, чаму **Ежы Слезак** (былы міністр сувязі і былы пасол з Беласточчыны), які нясе адказнасць за кшталт надзвычай некарыснага для Польшчы пагаднення аб стварэнні фірмы „Цэнтэртэль", выконвае цяпер абавязкі старшыні наглядальнай рады акцыянернага таварыства Telekomunikacja Polska.

**Міністэрства нацыянальнай адукацыі** распрацавала каляндар на новы навучальны год. Калядны перапынак прадугледжаны на 23—31 снежня, а велікодны — на 4—9 красавіка. Тэрмін двухтыднёвых зімніх канікул, якія павінны адбыцца паміж 15 студзенем і 24 лютым, назначаць паасобныя куратары (у Беластоцкім ваяводстве — 12—24 люты). Пісьмовыя экзамены на атэстат сталасці (матура) пачнуцца 7 і 8 мая, а ўступныя экзамены ў сярэднія школы — 24 і 25 чэрвеня. Летнія канікулы пачнуцца 22 чэрвеня. Заняткі для матурыстаў канчаюцца 26 красавіка, а для васьмікласнікаў — 19 чэрвеня. Беластоцкі куратар вырашыў таксама, што ў школах, дзе звыш 50% складаюць вучні праваслаўнага веравызнання, можна ўвесці дадатковыя свабодныя дні 8 студзеня і 15 красавіка.

**Раённая пракуратура ў Бельску-Падляшскім** вядзе праверку спосабу прыватызацыі Гарадскога прадпрыемства дарожных работ у Грыневічах. З сабраных паліцыяй матэрыялаў вынікае, што Управа горада Беластока папярэдняга склікання, якая наглядала за ходам прыватызацыі, прычыніла бюджэту горада і гміны страту велічынёю ў 3 млрд. старых злотаў.

**XXX жывапісны пленэр**, арганізаваны Беластоцкім аддзелам Саюза польскіх мастакоў, адбыўся ў Белавежы. Работы беластоцкіх і замежных жывапісцаў будзе можна паглядзець на адмысловай выстаўцы ў кавярні „Маршанд" у Беластоку.

**XV Міжнародны лёгкаатлетычны мітынг Ягелоніі** адбыўся ў Беластоку. Побач польскіх майстроў спорту ў спаборніцтвах прымалі ўдзел лепшыя спартсмены Беларусі, Украіны і Літвы. Самай яркай зоркай беластоцкага мітынгу выступіла беларуска **Эліна Зверава** — чэмпіёнка свету ў кіданні дыска з Гётэбарга, якая ўстанавіла новы рэкорд мітынгу вынікам 63,72 м.

**У інфекцыйную бальніцу ў Беластоку** папала сем пацыентаў з Беластока і Супраслі, якія заразіліся трыхінай. Крыніцай інфекцыі была праўдападобна сырая вэнджаная каўбаса, набытая ў беластоцкіх мясных магазінах. Жыццю хворых нічога не пагражае.

**Мытнікі з Кузніцы-Беластоцкай** перашкодзілі кантрабандыстам пераправіць 35 літраў спірту, які быў прыхаваны ў цягніку Гдыня—Гродна. Ніхто з пасажыраў не прызнаўся да гэтага багажу. А ў цягніку Гродна—Варшава пад сядзеннямі мытнікі таксама выявілі 26 літраў спірту.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Рэпартаж Міколы Ваўранюка з падарожжа ў Італію.
- Баброўнікі пад хмарай дыму і пылу — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- Стагоддзе ва ўспамінах Мікалая Чарнецкага.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Паслядоўнасці рэферэндуму

Прыняты майскім рэферэндумам статут двухмоўя зрабіў усё ж сваю адмоўную справу. У гэтым навучальным годзе першых класаў з рускай мовай навучання значна больш, чым беларускіх. Сёлета ў Менску сядуць за парты 25 тысяч першакласнікаў, з іх 11 тысяч будуць вучыцца на рускай мове, 5 тысяч на беларускай. Ну а 9 тысяч дзяцей у канцы жніўня яшчэ не вырашылі, якую мову выбраць (дакладней, іх бацькі не вырашылі).

## Суд над забастоўшчыкамі

Транспартны пракурор рэспублікі Леанід Драбышэўскі паведаміў, што эканамісты падлічваюць матэрыяльныя страты ад забастоўкі на менскім метрапалітэне, пасля чаго ў менскі гарадскі суд будзе накіраваны адпаведны іск. Такое рашэнне транспартная пракуратура прыняла пасля таго, як 22 жніўня сталічны суд прызнаў забастоўку незаконнай. Дакладную лічбу стратаў пракурор не назваў, але мяркуецца, што яна складае лічбу з дзевяццю нулямі. Суд таксама можа накласці штраф на асобных удзельнікаў забастоўкі. Акрамя таго прызнанне забастоўкі незаконнай дало прававую аснову для звальнення ўдзельнікаў страйку.

## БНФ здзіўляецца

Лідэр БНФ Зянон Пазьняк выказаў здзіўленне аргументамі, якія прагучэлі ў тэлевізійным выступленні прэзідэнта Лукашэнкі пасля падаўлення забастоўкі на менскім метро. Прэзідэнт абвінаваціў БНФ і ягонага лідэра ў памкненні дэстабілізаваць абстаноўку ў краіне шляхам арганізацыі страйку ў метрапалітэне. Пазьняк заявіў, што ні ён асабіста, ні Народны фронт як палітычная арганізацыя не маюць ніякіх дачыненняў да арганізацыі гэтага страйку. „Пра падзеі ў Менску я даведаўся ў нядзелю (20 жніўня страйк быў ужо спынены — рэд.), у адзінаццаць гадзін ночы, калі вярнуўся з Гарадзеншчыны", — паведаміў лідэр БНФ. Пазьняк лічыць, што імкненне зваліць усе беды на Народны фронт выяўляе не толькі гранічную ступень цынізму сённяшняй улады, але і сведчыць пра поўную яе няздольнасць утрымліваць кантроль над сітуацыяй. На думку Пазьняка, апошняе выступленне Лукашэнкі фактычна дэзавуіруе ягоную ж уласную ініцыятыву круглага стала з палітычнымі лідэрамі ды робіць праблематычным удзел прадстаўнікоў БНФ.

## Амерыканская заява

Дзяржаўны дэпартамент ЗША зрабіў заяву для прэсы, у якой адмаўляе дачыненні Злучаных Штатаў да забастоўкі работнікаў менскага метро. Што да семінараў, якія Амерыканскі інстытут свабодных прафсаюзаў АФК/КПП праводзіць у Беларусі з 1992 г., то яны прысвечаны пытанням кіравання прафсаюзамі, арганізатарскім навыкам, заключэнні дагавораў з адміністрацыяй, правам працоўных па беларускім заканадаўстве і іншым відам дзейнасці прафсаюзаў.

## Візіт нямецкага міністра

Федэральны міністр замежных спраў ФРГ Клаўс Кінкель знаходзіўся ў Менску з аднадзённым візітам. Ён быў прыняты прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Галоўнымі тэмамі перамоў былі пытанні развіцця двухбаковых адносін, а таксама перспектыва ўмацавання еўрапейскай бяспекі і адносіны Беларусі з НАТО. Інфармуючы пра знаходжанне высокага госця ў сталіцы Беларусі, афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі прамаўчалі факт сустрэчы міністра Кінкеля з дванаццацю прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі (між іншым з З. Пазьняком, П. Краўчанкам) у пасольстве ФРГ.

## Расце беспрацоўе

Да канца гэтага года ў Беларусі будзе каля 180 тысяч беспрацоўных, што складзе прыкладна 2—2,4% ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. Па стане на 1 жніўня толькі афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у рэспубліцы налічвалася 114 940 чалавек (1,82%). Рэзкае павелічэнне колькасці беспрацоўных адбудзецца ў верасні—кастрычніку гэтага года, калі будзе праведзена значнае скарачэнне работнікаў на многіх прадпрыемствах.

## Звароту не будзе

Дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны атрымала ноту Міністэрства замежных спраў Украіны, у якой абгрунтоўваецца немагчымасць перадачы Беларусі бібліятэкі графа Храптовіча-Буцянёва. Сабраная графам у мінулым стагоддзі, яна змяшчае рукапісы, знойдзеныя на беларускай тэрыторыі, старажытныя кнігі, а таксама калекцыю еўрапейскіх рарытэтаў, набытых Храптовічам-Буцянёвым у Рыме. Цяпер гэтыя каштоўнасці знаходзяцца на тэрыторыі Украіны. Па розных гістарычных прычынах з тэрыторыі рэспублікі было вывезена вельмі многа твораў мастацтва, бібліятэчных і архіўных фондаў, а ў нашых запасніках для раўназначнага абмену з іншымі краінамі нічога чужога практычна няма.

# Дзе падзеўся лес?

15 жніўня ад некалькіх гадоў з'яўляецца выхадным днём. Сёлета дажджлівае надвор'е не дазваляла ні пакарыстацца пляжам, ні працаваць у агародзе ці ў полі. У тэлебачанні — вялікі перапынак. Прамовы, прамовы — дакладна таксама як у краіне саветаў пры панаванні Лёні Брэжнева. Што рабіць у такі дзень, калі разбэшчаныя дзеці сваім запасам энергіі і крыкам не дазваляюць нават на чытанне часопісаў і кніжак. А можа бы так выбрацца „за грыбамі" — падумалася мне. Няважна, што з прычыны засухі нічога ў лесе не вырасла, але з гэтага толькі самая прыемнасць, бо не трэба валачыць за сабой цяжкую карзінку.

Як падумаў так і зрабіў. Яшчэ 3—4 гады таму назад у ваколіцы вёсак Стральцы, Сацы, Жыўкова, Пухлы (Заблудаўская і Нарваўская гміны) шумелі амаль стогадовыя сосны, елкі, бярозы. „Дрэва з небам гаворыць", — казалі з захапленнем мясцовыя жыхары. Якое ж было маё здзіўленне, калі ў г.зв. стралецкім лесе я пабачыў толькі пні велічыні круглага стала. Праўда, маладняк-самасей так як і раней вызначаў межы лесу, але ў сапраўднасці быў ён ужо толькі на геадэзічных картах. За Сацамі ў напрамку Жыўкова цягнуцца вялікія пустыя прасторы, і толькі пянькі сведчаць, што нядаўна гэты краявід быў зусім іншы. Шпацыруючы па добра мне вядомай ваколіцы, шмат чаго не магу пазнаць. Там і там, памяталася мне, былі невялікія ляскі, купіны, на якіх расло пару дзесяткаў або пару соцень вольхаў, соснаў, елак. Ужо іх няма. Толькі нейкія пакручаныя, зарослыя хмызняком дрэўкі, навокал густа сплеценыя малінамі, крапівой, асотам, папараццю і ўсялякімі травамі.

Чаму адбываецца такі здзек над прыродай, запытаўся я выпадкова спатканых людзей. Знаёмы дзядзька, які вёз поўны воз драўніны па дарозе, якая вядзе з Сацоў у Пухлы, растлумачыў справу вельмі проста: „Дачка жыве ў горадзе, у доме, які я паставіў, і выхоўвае дзяцей. Яе муж зарабляе 5 мільёнаў, а за газ трэба было плаціць у студзені 3,5 мільёна. Як тады мелі яны жыць, чым пракарміць сям'ю? Каб не даў ім час ад часу палову вепруха, то не ведаю, як яны жылі б. Лес свой маю, зрэзаў пару елак, хай зімою топяць печку дрывамі. Танней будзе".

У Стральцах двух пенсіянераў, якія сядзелі на лавачцы, прадставілі цэлую эпапею высечкі навакольных лясоў. Той, хто аддае зямлю за рэнту і мае лес, стараецца, каб гэтая ўласнасць трапіла да яго на панадворак у выглядзе тавару або ў кішэнь у выглядзе грошай — калі прадае дрэва. Часам, калі не паспеюць высечы лес бацькі, прадаюць яго іх гарадскія ўжо дзеці, а нават унукі. Шмат паасобных соснаў ці елак знікае з лесу невядома калі. Пакуль нашчадкі ўласнікаў, якія жывуць найчасцей у Беластоку зарыентуюцца, што няма тых дрэў, нехта ўжо паспее ператварыць іх у дошкі. Праўда, ёсць законы, якія забараняюць сячы лес нават уласнікам без дазволу лесніка, але ніхто на іх не звяртае ўвагі. Яшчэ нікому з сялян не прыйшлося прасіць дазволу ў нейкага ўрадніка, каб са свайго лесу ўзяць пару елак. Дэталёва распавядалі стралецкія пенсіянеры, як у іх вёсцы пасля смерці бацькі яго сын, стары кавалер, распраўіўся з лесам, а грошы прапіваў хутчэй, чым зніклі сямідзесяцігадовыя сосны.

Няйнакш ёсць і ў лясах, якія называюць дзяржаўнымі. У радах лясной службы працуе шмат г.зв. сваіх хлопцаў. Любяць яны пад елачкамі чарку выпіць. І пры такой сяброўскай размове можна са службовай асобай дагаварыцца. Дзяржаўны лес сякуць і без дамовы з леснікамі. Калі ідзе пра гэты тып уласнасці, больш праўдападобна, што ніхто са службоўцаў не будзе шукаць аднаго ці двух дрэў, калі іх у лесе астаецца яшчэ дзесяткі тысяч.

Спусташэнне дзяржаўных лясоў ідзе нашмат хутчэй, чым прыватных. Планава высякаюцца вялікія кварталы 40—50-гадовых соснаў. Рэалізуюцца такім чынам нейкія злачынныя кантракты. Пры нагодзе крадзе хто толькі можа. Тэхнічныя магчымасці гэтага знішчэння прыроды тут неабмежаваныя. Таму значныя лясныя комплексы зверху пэўна выглядаюць як дзіравы сыр. Так у сапраўднасці існуе толькі абрыс лесу, а тое, што знаходзіцца ўнутры, цяжка назваць пушчай, хаця так гэтую прастору часта называюць на картах.

Такое спусташэнне лясоў, якое адбылося ў апошніх гадах не магло не пакінуць адмоўных вынікаў. У некаторых вёсках узровень грунтавых вод так панізіўся, што іх жыхары маюць летам цяжкасці, каб напаіць жывёлу. Тое, што ў ліпені сохнуць палі і лугі, стала як бы нормай летняй пары. Ніхто, аднак, не звяртае ўвагі, што гэты працэс пашыраецца прапарцыяльна да знікання чарговых лясных масіваў. Ніхто не ведае, як паўплывае змена геаграфічнага асяроддзя на дзікія птушкі і лясную звярыну.

Калі так бліжэй прыглянуцца нашым лясам і пушчам, відаць вялікую патрэбу грамадскай адукацыі ў галіне экалогіі. Ад усведамлення пагрозы паслядоўнасці знішчэння натуральнага асяроддзя можа пачацца нейкі рух у яго абарону. Сёння, на жаль, займаюцца гэтым толькі бюракраты, якія атрымалі грошы, каб арганізаваць нейкую канферэнцыю — найчасцей для іншых бюракратаў, ды выдаць нейкі бюлетэнь. Сутнасць справы, аднак, мала іх цікавіць.

**Яўген Міpановіч**

# Паміж страхам і тугою

Мар'я з'яўляецца спелай, акуратнай жанчынай. Нягледзячы, што ёй ужо за трыццаць, мае стройную, прыгожую фігуру. Прывабныя, зялёныя вочы, у якіх нейкі сум нават тады, калі смяецца. Жыццё Мар'і затрымалася паміж страхам і тугою па ўсім тым, што займелі яе сяброўкі і знаёмыя: па сям'і, дзецях, па звычайнай, шэрай, жыццёвай стабілізацыі. Праміналюць гады, а яна адзінокая. Адзіноцтва з выбару, якое дае пачуццё бяспекі і спакою, а так папраўдзе яна самотная і не хоча да гэтага прызнавацца. Усё пачалося даўно таму, калі яшчэ была маленькая.

— Бацька піў гарэлку але сапраўднае зло пачалося тады, калі пачала папіваць і маці. Думала, што адцягне яго ад бутэлькі, як сама стане сябрам у выпіўцы. Ну і хутка паплыла. Помню доўгія кашмарныя месяцы, калі яны не цверазелі, а я мусіла займацца брацікам і домам. І збірала лаянку і пабоі, калі нешта было не так, калі пачынала бракаваць гарэлкі. Бацькі не былі дрэнныя, напэўна нас любілі, але гарэлка была мацнейшая за іх. Кашмар сягнуў дна, калі бацьку выкінулі з работы за п'янства. Ніколі ўжо больш не падняўся, не пайшоў на пастаянную працу, час ад часу недзе прыватна падзарабіў, але ўсё прапіваў. Бывала, што ўдавалася мне падабраць у яго крыху грошай на ежу. Крыху нам цёця памагала. Мама вельмі цярпела — была асобай інтэлігентнай і не магла глядзець, як мы жывем. Сорам і немач дабівалі яе так сама, як і гарэлка. Праклінала нас усіх, а пасля перапрашала і прысягала, што ўсё адменіцца і будзе добра. Але было штораз горш. Урэшце я не вытрымала — калі мела 16 гадоў, уцякла з дому. Пакінула маме картачку, напісала, што яе ненавіджу і хачу, каб хутка памерла. Гэтыя мае ўцёкі супалі ў часе з яе чарговым прыступам дэпрэсіі і сталася найгоршае — павесілася яна ў умывальні на клямцы. Пасля нехта мне сказаў, што мела ў руцэ гэтую маю няшчасную картачку.

Мар'я гаворыць спакойна, не хвалюецца; вядома, мінула ўжо толькі гадоў. Калі ўсміхаецца, прападаюць маршчыны вакол рота і становіцца прыгожай і прывабнай жанчынай.

— Ну і стала я мацярыць на пяць гадоў малодшай сястры. Спярша апекавалася намі цёця, бо з бацькам нельга ўжо было вытрымаць. Калі мне споўнілася 18 гадоў, суд прызнаў мне апеку над Аняю, пазбаўляючы бацьку бацькоўскіх правоў. Брат раней адышоў ад нас на сваё. Я стала на працу ў банку, а вечарамі рабіла матуру. Найгоршае настала, калі памерла цёця і мы асталіся без кватэры — была я блізкая адчаю. Хацела я Ані даць усё, каб не адчувала сябе сіратою. Ніколі не прасіла дапамогі. Людзі па-рознаму адносіліся да нас; часта бывала прыкра. Хадзіла на бацькоўскія сходы, афармляла сямейны засілак для сястрычкі. Пратрывала гэты найгоршы перыяд. Аню вывучыла і аддала замуж — цяпер я хросная маці яе малой Касі. Далей аднак ужо жыццёвы хаос поўны штодзённай пустэчы, заглушанай працаю, чарговымі раманамі і гарэлкаю. Магу ганарыцца тым, што ўсё жыццё пражыла сумленна і нічога нікому не вінавата. Прабавала дапамагаць бацьку; плаціла за яго нейкія выпівачныя штрафы. Абяцаў, што пачне лячыцца. Але ён хіба доўга не пацягне — п'е дэнатурат. Пры свечцы сядзіць, бо адключылі электрычнасць. Не хачу ўжо глядзець не гэта і чакаю толькі на яго смерць, каб звольнілася кватэра. Стала мне лепш жыць, калі кінула працу ў банку і пачала працаваць манікюршай. Маю свае кліенткі, якія прыходзяць, каб паразмаўляць, выжаліцца. Я ўмею слухаць іхні шчэбет і яны гатовы плаціць за гэта, а пры нагодзе зрабіць манікюр. Усе сяброўкі здаўна ўжо хочуць мяне высватаць. Было ў мяне многа нарачоных, аднак я неяк не веру ў сапраўдную і шчаслівую любоў. Адны жаніхі мяне знеахвочвалі, другіх знеахвочвала я. Цаню незалежнасць ды і не хачу расчароўваць ні сябе, ні каго другога. Баюся мець дзяцей — гэта абавязак, гэта непраспаныя ночы, гэта боязь за іх будучыню. Часам адчуваю адзіноцтва. Найгорш у вольныя ад працы дні, калі астаюся без занятку ў пустой кватэры і не магу ўцячы на работу. Адкрываю тады бутэльку віна, бяру запісную кніжку і, нягледзячы на пару, званю да ўсіх, чый нумар маю запісаны. Пляту ім абы-што, віно дае мне свабоду і адчуваю сябе як актрыса ў вялікай ролі, а яны, надзіва, слухаюць. Людзі любяць слухаць гісторыі, якія іх не тычацца — гэта папраўляе іх самаадчуванне. На шчасце, — думаюць тады, — гэта не мая бяда. Адыгрываю часам сапраўдныя драматычныя спектаклі. А пасля, заўтра? Хто ведае, што будзе заўтра? Хіба чарговы дзень...

**Выслухаў і запісаў**
**Андрэй Гаўрылюк**

# Яшчэ адзін фэстын — у Нарве

27 жніўня (нядзеля) бягучага года адбыўся чарговы беларускі фэстын — у Нарве. Гасцямі яго былі: генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Польшчы Міхаіл Слямнёў ды паслы Сейма — Станіслаў Малішэўскі, Мечыслаў Пецка і Сяргей Плева.

Прывіталі ўсіх удзельнікаў пленэрнага культурнага мерапрыемства старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі ды пасол у Сейм Рэчы Паспалітай Сяргей Плева (ён ураджэнец Нарваўскай гміны).

У мастацкай частцы выступілі мастацкія самадзейныя калектывы: „Тыневічанкі" з Тыневіч Вялікіх, дзіцячы хор ды вакальна-музычны гурт „Пронар" з Нарвы, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Маланка" з Бельска-Падляшскага, хор БГКТ з Беластока, „АДМ" з Гайнаўкі ды жаночы хор з Козлікаў. Рэпертуар быў багаты, цікавы, займальны...

Прадаваліся таксама кніжныя і касетныя выданні.

Пад вечар, пасля звыш трохгадзінных выступленняў, калектывы і запрошаныя госці паабедалі ды адпачывалі пры вогнішчы над маляўнічай завілістай ракой. Фэстын у Нарве закончыўся танцавальнай вечарынай у мясцовым асяродку культуры.

**(яц)**

## Напіткі з Нараўкі

Пасля трохгадовага перапынку ў Нараўцы зноў пачаў працаваць напітковы завод. Цяпер ён — узяты ў арэнду ад мясцовай ГС — належыць Спулдзельні таварнага абарачэння малачарскай прамысловасці ў Беластоку. У ліпені і ў жніўні бягучага года завод пачаў выпускаць дзевяць розных ахаладжальных газіраваных і негазіраваных напіткаў, між іншым сунічныя, клубнічныя і яблычныя, а таксама апельсінавыя, лімонавыя ды з іншых цытрусавых фруктаў.

У жніўні нараўчанскія напіткі былі экспартаваны ў Эстонію ды ў сталіцу Расіі — Маскву.

Зараз на заводзе працуе дванаццаць жанчын з Нараўкі ды з навакольных вёсак: Міклашэва, Заблотчыны і Плянты. Кіраўніком прадпрыемства з'яўляецца Анатоль Харкевіч, ураджэнец Нараўчанскай гміны. Усяму рабочаму калектыву напіткавага завода зычым плёну ў працы.

**ця**

# Чаму нас так мала?

Кожны народ мае сваю культуру, мову, гісторыю, якія павінен ведаць і шанаваць. Таксама і мы, беларусы, павінны шанаваць усё гэта. Але ці так ёсць? Хіба не.

Беларусы, што жывуць на Беласточчыне (і не толькі), у большасці забываюць пра сваю нацыянальнасць, не прызнаюцца да беларускасці. Гавораць пра сябе, што яны палякі, але ў хаце з бацькамі, дзядамі гавораць „па-свойму", па-беларуску.

Цяпер гэта выглядае так, але што будзе праз 20, 30, 50 гадоў? Што могуць даць бацькі сваім дзецям, якія самі не лічаць сябе беларусамі? Няцяжка адказаць.

Большасць маладых людзей не прызнаецца, што яны маюць нешта супольнае з беларускасцю, саромяцца гэтага. Думаюць, што як выявяць праўду, то стануць іншымі, горшымі.

Горшымі ў чым? У тым, што інакш гавораць, што яны беларусы. Няма лепшых ці горшых нацый, усе яны роўныя.

Немцы ці ўкраінцы, якія жывуць у Польшчы, не пакідаюць свайго народа, не адмаўляюцца ад сваіх каранёў так, як часта мы гэта робім.

Вялікі ўплыў на маладых людзей мае школа, якая павінна паказваць ім дарогу ў будучае. Але ці паказвае?

Таксама ўплыў на моладзь мае Захад. Маладыя адкідаюць усё, што нашае, а прымаюць усё, што чужое. Многія з іх не ведаюць, што ў нас, беларусаў на Беласточчыне, таксама ёсць рок-гурты, між іншым, „Брага", „Кардон", якія граюць па-беларуску і добра ім гэта выходзіць. Нягледзячы на цяжкі час для Беларусі, не ўсе маладыя адкідаюць сваю спадчыну, сваю мову, сваю культуру і гісторыю. Ёсць група людзей, якія не саромяцца, што яны беларусы. Але гэта толькі адзінкі, таму што „Białoruś to sprawa nie dla mięczaków".

**Андрэй Саковіч**
**(вучань бельскага ліцэя)**

## Тартак у Супраслі дапамагае

Паспяховых фінансавых вынікаў дабіўся тартак у Супраслі. Пасля ўсяго аднаго года самастойнай дзейнасці — раней ён уваходзіў у склад Беластоцкага прадпрыемства дрэваапрацоўчай прамысловасці — мае ён прыбытак у 4 мільярды старых злотаў. Рабочыя маюць па 8—11 мільёнаў злотаў месячнай зарплаты.

Такія поспехі — вынік карысных экспартных кантрактаў з партнёрамі. Зараз тартак у Супраслі экспартуе свае вырабы ў Галандыю, Бельгію, Вялікабрытанію і ў Данію.

Тартак мае грошы і... не адмаўляе ў дапамозе мясцовым таленавітым спартсменам — лыжнікам (у іх багатыя спартыўныя традыцыі) і футбалістам, у закупцы апалу школам ды медыцынскага абсталявання мясцоваму асяродку здароўя.

**(ця)**

## Прывід паліцэйскай дзяржавы

Эканоміка Беларусі апынулася ў даволі складаней сітуацыі. І хаця заводы не выкарыстоўваюць сваю прадукцыйную магутнасць, то і так няма каму купляць выпушчаную імі прадукцыю, а ў выніку няма чым плаціць рабочым. Нярэдка не атрымоўваюць яны зарплаты па некалькі месяцаў, а на многіх заводах за выкананую працу плацяць прадуктамі. Паўбяды, калі такое дзеецца ў харчовай прамысловасці, але што рабіць рабочым машынабудаўнічых ці металаапрацоўчых заводаў.

На глебе нетэрміновай выдачы заработнай платы ўзнікаюць канфлікты паміж рабочымі і адміністрацыяй, якія штораз часцей набываюць форму забастовак. Калі страйкам у прадпрыемствах не адводзіцца асаблівай увагі, то забастоўку менскіх транспартнікаў схаваць за шыльдачкай „Метро закрыта па тэхнічных прычынах" было нельга.

У палове жніўня ў Менску забаставалі работнікі тралейбуснага дэпо н-р 1, а на другі дзень падтрымалі іх метрапалітэнаўцы, патрабуючы ад адміністрацыі перш за ўсё выканання калектыўнага дагавора і тэрміновай выдачы зарплаты. Страйк на метро спыніўся пасля двух дзён, калі міліцыя не дапусціла бастуючых да месцаў працы, а страйкуючых вадзіцеляў электралакаматываў заступілі чыгуначныя машыністы. Адразу пачаліся звальненні ўдзельнікаў пратэсту, а ў адносінах да арганізатараў страйку ўзбуджана судовая справа. Міліцыяй былі затрыманы прафсаюзныя дзеячы, якія прымалі ўдзел у страйку, у тым ліку і дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык.

21 жніўня ў чатыры гадзіны дня да Антончыка падышлі два афіцэры (адзін з іх палкоўнік) і сказалі, што запрашаюць яго пайсці на размову. Той адмовіўся, сказаўшы, што для затрымання народнага дэпутата неабходна рашэнне Вярхоўнага Савета. Калі Сяргей Антончык настойваў паказаць дазвол пракурора на яго затрыманне, па рацы былі выкліканы людзі ў бронекамізэльках і масках на тварах, якія сілай пасадзілі яго ў машыну і вывезлі ў вайсковую часць Міністэрства ўнутраных спраў на вул. Прылуцкай. Там яго трымалі цэлы дзень і ноч у пакойчыку ў прысутнасці людзей у масках. На другі дзень а шостай гадзіне затрыманага дэпутата перавезлі на Танкавую вуліцу, дзе трымалі цэлы дзень. Ахова да арыштанта адносілася карэктна. Некаторыя з вартаўнікоў нават прасілі прабачэння за здарыўшуюся сітуацыю і апраўдваліся, што не могуць нічога зрабіць, бо прыказ даў самы верх. Вечарам Антончыка вывезлі ў пяць машын за горад у Сектар падрыхтоўкі ўнутраных войск. 23 жніўня раніцай дэпутата вывезлі ў КДБ і сказалі яму, што ўказам прэзідэнта ад 21 жніўня адменена імунітэт дэпутатам і што ён зараз просты грамадзянін і ў дачыненні да яго будзе праведзена расследаванне як да любога грамадзяніна. Пасля такой заявы Сяргея Антончыка адпусцілі на волю.

Інфармацыю Антончыка аб новым указе прэзідэнта пацвердзіў намеснік генеральнага пракурора Уладзімір Кандрацьеў, які сказаў наступнае: „Мне вчера ещё доложили (...), что президент издал указ от 21 августа о снятии депутатского иммунитета начиная с сельского совета и кончая Верховным Советом". — „А што вы будзеце выконваць: закон ці ўказ?" — спытаў яго Валянцін Голубеў, які разам з Сяргеем Навумчыкам (абодва — дэпутаты ВС ад апазіцыі) вёў пошукі затрыманага сябра. „Указ президента", — адказаў пракурор.

У той самы дзень вечарам па радыё прагучэла наступная інфармацыя: „У сувязі з заявай Антончыка аб тым, што ўказам прэзідэнта ўсе дэпутаты пазбаўлены дэпутацкай недатыкальнасці, выконваючы абавязкі начальніка Дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Віктар Лубоўскі паведаміў, што прэзідэнт такі ўказ не падпісваў. Прытым юрыст падкрэсліў, што права дэпутацкай недатыкальнасці замацавана ў канстытуцыі Рэспублікі Беларусь".

Калі апазіцыйныя дэпутаты хацелі высветліць хто і на якой падставе загадаў затрымаць Сяргея Антончыка, аказалася, што афіцыйна ніхто нічога не ведае. Падчас затрымання не быў нават састаўлены пратакол, так што няма следу па пабыўцы Антончыка ў памяшканнях МУС. Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько на сустрэчы з дыпламатычным корпусам, адказваючы на пастаўленае яму пытанне, сказаў, што вядзецца расследаванне наконт затрымання дэпутата Антончыка. Хаця яшчэ невядома (мабыць, ніколі не будзе вядома) хто загадаў затрымаць дэпутата Антончыка, можна меркаваць, што быў гэта высокі рангам дзяржаўны чыноўнік, якога нават незаконнае патрабаванне выконваецца без ніякіх сумненняў. Некаторыя палітычныя каментатары схіляюцца да меркавання, што калі б страйк менскіх транспартнікаў працягваўся і пашыраўся на іншыя галіны гаспадаркі, магчыма што прэзідэнт выдаў бы згаданы ўказ з мэтай выключэння непаслухмяных дэпутатаў з палітычнага жыцця.

Казус Сяргея Антончыка, а раней пабоі і выдварэнне галадаючых дэпутатаў з будынка парламента, паказваюць, што ўлада ў Беларусі, якая лічыць сябе дэмакратычнай, пачынае арганічна не пераносіць палітычных сапернікаў і ў змаганні з імі пачынае прымяняць недэмакратычныя працэдуры таталітарных рэжымаў. Няўжо Беларусь чакае перспектыва паліцэйскай дзяржавы?

**Віталь Луба**

## Quo vadis, Аляксандр Лукашэнка?

*Працяг са стар. 1*

хаосам, містыкай, галадухаю. Людцы ў страху. Яны галасуюць на таго, хто гарантуе ім былое, абжытае і звычнае. Хворая эканоміка, на жаль, рэагуе накшталт загніўшага зуба: што ні рабі, мус лячыць або рваць!

Пакуль што ўстаяўся настрой пошукаў трэцяга шляху, паміж камунізмам і капіталізмам. Апланоўвацца жаніцьбу справядлівасці з багацьцем. І папа рымскі жыве падобнай ілюзіяй... У Еўропе, тым часам, дайшло ўжо да іх разводу: рынак парынае носам нават пад лагодным, як здавалася б, цяжарам сацыял-дэмакратычнай надбудовы. Ну, але заходнія беды бачацца намі трохі надуманымі: шведскі беспрацоўны маецца няшмат горш нашага прафесара...

Уся тая мітусня ўпіраецца ў біблейскае амаль пытанне: ці статыстычная чалавечая адзінка здольная не пакладаць рук, не будучы прымушанай дзеля гэтага ўціскам быту? Міф Раю гэтак жа старадаўні, як і сама цывілізацыя. Будні — гэта рэальнае пекла. Імкнення да шчасця чамусьці не знеахвочвае ягонае потым нудота, манатонія... Таму так даверліва заўглядаліся былі людкове ў ясныя дні камунізму. Апамяталіся, калі ўгледзелі заваленую людскімі касцямі дарогу ў абяцанае заўтра. Юрыдычна здарылася несусветнае злачынства. Ідэалагічна быў гэта ўсяго толькі непазбежны кошт спеху ў той Рай, руху наўпрасты. За адным махам зніштажаючы жывую памяць пра мінулае, ад нецярплівасці марудна чакаць яе самачыннага знікнення... Вынішчыць — чаго баяцца?! — старых і дарослых, робячы стаўку на бяспамятную моладзь. Новае адлічванне пачатку свету, дакладна ад 7 лістапада 1917 г. А ў Французскую Рэвалюцыю ўвогуле ўведзена паняцце Году Першага. Таксама для ўсяе Зямлі. Наіўнасць.

Ад тых — як некалі гаварылася — эпахальных пераўтварэнняў астаўся жыць у Рэспубліцы Беларусь смутны цяпер савецкі чалавек. З закамплексаванасцю пакінутай сіраты, схільнай да самааганьбоўвання. Нацыянальная ідэя не прымаецца ім, бо падкрэслівае вагу асобы, недатыкальнасць індывідуальнасці. Адказнасць за свой лёс ускладае не на нейкія ананімныя моцы. Не дазваляе на вегетацыю ў дрымотнай пераконанасці ў тым, што анічога ад самога сябе не залежыць. Выцягвае за вушы з выгоднага калектывізму, у якім — усе за ўсіх і няма канкрэтна вінаватых у безнадзейнасці, таксама, у кожнага паасобку. Грамадства мурашак. Самавызначэнне *я — беларус* выклікае стрэс адкрыцця ўласнае вартасці, з якою невядома, што рабіць!? Адразу прагледаецца тады тхлань бясэнсу тлумна перажытага і сваёй вінаватасці ў тым. Бяздонне дурноты.

Такое насельніцтва надзеліць уладаю над сабою каго хочаш, каб толькі не прыкра яму нацыянальна свядомага. Фізічная сітуацыя стаячай вады вобразна ілюструе грамадскае становішча ў Рэспубліцы Беларусь. Чаканне, чаканне, чаканне... Прэзідэнт ты наш, ратуй! Добра, таварышы, але як?! У Маскву са скаргаю не паедзеш, асобная ж дзяржава. Найпрасцей было б здаць ёй заплаканую Беларусь ды расейцы не лыкам шытыя. Ужо не хапаюцца за абы-што. Перастаюць быць усёеднымі. Прычым, новаяўлены нацыяналізм капітальна адрозніваецца ад рамантычнага, што ў перакладзе на расейскія рэаліі — беларусы перастаюць быць дастойнымі асіміляцыі. Па паралелі *бананавых рэспублік* Беларусь ахрысцілі *бульбянай* (часамі *агурковай*). Дэфініцыя нацыяналізму канца дваццатага стагоддзя: *самакрытыцызм замест ранейшага некрытыцызму і пагардлівае ігнараванне іншых як яшчэ горшых, якімі не варта пэцкаць рук.* Не місіянерская экспансіўнасць, а засяроджанне на самім сабе. Не ты сядзеш за мой стол!

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, легкадумна здаўшы ў манаполь апазіцыі перспектыўны козыр **нацыянальнага адраджэння**, з віхурнай імклівасцю рэалізуе намераныя ім акцыі, аказваецца, павярхоўнага значэння. Нічога фундаментальнага, на вякі. Яго *мядовы год* вельмі ж ельцынаўскі некалі, у прынцыпе папулісцкі. Але, як лішні раз пераканаўся дарагі Барыс Мікалаевіч, чым глыбей у лес тым гусцей дрэў. Русіфікацыйны электарат Аляксандра Рыгоравіча штурхануў яго ў самазабойчую памылку: праграмна праігнараваў электар-прэтэндэнт гістарычна непазбежнае менавіта нацыянальнае адраджэнне Беларусі! Замест учыніць з таго свой высокі штандар, з дапамогаю якога выводзіў бы з народнае душы гультайскае ўтрыманства, інфіцыраванае бальшавікамі, і адвечны мужыцкі спадзеў на *мудрае кіраўніцтва*. Ён, на сваю біду, палічыў важнейшым пакарыстацца нагодаю ўзысці на п'едэстал усім любага Бацькі. Паўстаўшы на такую паднебную вышыню, што яму далей чыніць-рабіць? Узяць пугу і паганяць? Савецкі народ таму ён і савецкі, што без загаду нікуды і нагою не ступіць. Хадзі за ім, бы пастух за авечкамі... Сам і да крыніцы не дойдзе, каб вадзіцы напіцца. Вялікія дзеці.

Як далёка ты, дабрадзею, з такімі зойдзеш? Яны ж у выбух жалю затопчуць цябе!

Гэта ж свайго роду эканамічны Афганістан! У нерэфармаваную Беларусь кінь грошы хоць цэлае Амерыкі: капітал булькане фантанам і багном заплыве.

Нацыянальна свядомы грамадзянін — памятайма! — тым адрозніваецца ад грамадзяніна сацыяльна-класавай арыентацыі, што, стаўшы беларусам, яму баліць сэрца за лёс Беларусі-Маці. Ён шмат сцерпіць, каб толькі вывесці Бацькаўшчыну на гладкі гасцінец у будучыню. Гэта патрыёт, чалавек духа. Не наплявач з разяўленым горлам.

А савету — усё *да лямпачкі*: давай, Беларусь, выпіць, давай закусіць, а калі не, дык чорт з табою, у Расею пайду!.. — Прощай, бульбаш!

**Сакрат Яновіч**

## Праўда бярэ верх над няпраўдай

Ад успамінаў Юстына Пракаповіча, што пад загалоўкам „З мінулых дзён" друкуюцца ў „Ніве", не адарвацца. Тое, што ён піша, гэта праўда і яшчэ раз праўда. Аўтар выдатна карыстаецца беларускай мовай; яна ў яго прыгожая, сакавітая, багатая і дасканалая, як і сама аповесць. І цешыцца сэрца, што не звяліся ў нашым народзе такія таленты. Вельмі важным ва ўспамінах з'яўляецца тое, што Юстын Пракаповіч, які нарадзіўся ў той частцы Беларусі, якую пасля апошняй вайны захапілі бальшавікі, не падлізваецца ніякім правячым прайдзісветам: ні санацыйным кругам, ні бальшавікам, ні немцам, а толькі піша аб іх праўду. Бо большасць нашых аўтараў з Беласточчыны, і не толькі з яе, свае ўспаміны пісала аднабакова: на санацыю валілі громам і агнём, а бальшавікоў, якія нас „вызвалілі з-пад панскага ярма" восенню 1939 года, выхвальвалі аж да неба. Яны ў немцах, акупантах падчас апошняй вайны, бачылі смяротнага ворага беларусаў, а кожную бальшавіцкую партызанку лічылі святасцю. Хаця часта гэтыя лясныя „святыя" паводзілі сябе горш ад звычайных бандытаў, бо былі грабіцелямі, зладзеямі, п'яніцамі і сяляне іх баяліся, як агню. Колькі вёсак пайшло праз іх з дымам і колькі людзей загінула праз іх з рук немцаў-акупантаў, калі партызаны недзе каля вёскі або ў самой вёсцы забілі аднаго ці некалькіх немцаў, часта каб пажывіцца іхняй сумкай (прыкладам вёска Райск, што на Бельшчыне). Пляваць ім было на ход вайны і атрымліваліся з гэтага страшныя трагедыі, бо нямецкія фашысты рабілі сваю лютую помсту на мірных жыхарах вёсак. У нашых ваколіцах быў атрад Суворава, у якім служыў Дзямян Захожы з Карыціск, былы дэпутат саветаў, які аднасяльчан, „кулакоў", высылаў на Калыму і ў Сібір. Гэты атрад бадай не забіў ніводнага немца, толькі займаўся грабяжом насельніцтва і п'янствам. А сам Захожы пасля вайны не адважыўся застацца ў роднай вёсцы і падаўся ў „вольны" СССР. Некалькі разоў прыязджаў у Польшчу (нават быў госцем рэдакцыі „Нівы") у абарванай вопратцы і гумовых ботах. Аднак партыя яго дацэньвала, бо некалькім яе членам Д. Захожы вырабіў партызанскія білеты, хаця ў сапраўднасці яны падчас нямецкай акупацыі сядзелі на печы. Такая, на жаль, была праўда, аднак многія нашы публіцысты пісалі інакш — хлусню. Ніводзін з іх не напісаў, што ўсе гэтыя партызаны карысталіся выключна расейскай мовай. Юстын Пракаповіч піша цалкам інакш, бо піша праўду. Ён піша адкрыта, што нам, беларусам, пры санацыі пагражала поўная асіміляцыя на карысць польскай мовы і каталіцызму. Пракаповіч піша так, як было ў сапраўднасці і не гарыць ніякай нянавісцю ці пагардай ні да камуністаў, ні да палякаў, ці рускіх, а таксама да кожнай мяняючайся ўлады. Ён быў у цэнтры падзей, адкуль найбольш відаць, бо тыя, якія асталіся на пабочыне, былі і ёсць блізарукімі, бо адтуль мала відаць і іхнія кніжкі — гэта макулатура. Пракаповіч цікава апісвае нашэсце бальшавікоў на наш край і тое, што многія нашы беларусы скора расчараваліся бальшавіцкімі пустымі абяцанкамі. Таксама цікава піша і пра нямецкую акупацыю і пра савецкую партызанку, якой яна была ў сапраўднасці; ніхто яшчэ так у „Ніве" не пісаў. І таму мая просьба: успаміны Ю. Пракаповіча абавязкова пастарайцеся выдаць кніжным выданнем калі закончыцца іх друк у „Ніве".

**Мікалай Панфілюк**

## Усе разбегліся

Нарадзіўся я яшчэ перад I сусветнай вайною. З падзеяў, што тады адбываліся, помню польска-бальшавіцкую вайну, як бальшавікі ішлі. Пыталіся: „Далеко до Варшавы?”. Галота страшная гэта была: адна нага ў камашы, а другая ў пастале. У аднаго шапка цывільная, а ў другога пілотка. „Давай кушать!” — крычалі. То мы хавалі ад іх што куды; малако ў гуркавінне. Потым Польшча настала. Як надыходзіла вайна, атрымаў мабілізацыйную карту ў Седльцы. Мая карта з чырвоным паскам была, а мелі і іншага колеру. Многа народу змабілізавана было. Я трапіў у артылерыю. У бой уступілі мы дзесьці пад румынскай граніцай. Адступала ўжо толькі артылерыя і сувязь, бо пяхоты не было; была разбітая. Адна батарэя страляла, а дзве адступалі і так, зьмяняючыся, адыходзілі. Спачатку камандаваў маёр, потым паручнік, а пад канец сяржант; афіцэры ўцякалі, як толькі маглі; усе разбегліся. Паручнік паставіў нашу батарэю на адкрытым узгорку перад хвайнай. Я кажу, што трэба паставіць дзесьці ў доле, у кустах. „Мільчэць!” — крыкнуў на мяне, — я вем лепей”. Сталі мы на пазіцыю, 20 метраў гармата ад гарматы, аднялі перадок, каб адвесці. Ну і немец адразу і даў па нас як толькі коней адвялі. Майго каня асколак ад снарада папаў. Конь упаў. Я з ім абсунуўся. Зараз конь, што побач ішоў, таксама дастаў. Я між коней, на дышаль апусціўся. Навокал карцечы толькі лес косяць. Ляжу. Стральба сціхла. Чую, нага ў мяне спацела ці што. Заглядаю, а там кроў, лытку збоку раздзерла; яшчэ і сёння заглыбленне ў гэтым месцы засталося. То я нажом адрэзаў кусок сарочкі, прылажыў нейкае лісце, каб кроў не ішла, абвінуў. Спачатку не чуў, але потым пачало балець, разбалелася, нага спухла. А каня майго то забіла адразу. Праляжаў я так амаль да вечара. Узяў вінтоўку і пачыкілдаў, апіраючыся. Едзе маёр.

— Дзе зборны пункт? — пытаю.

— Я сам не вем, не заврацай гловы, — адказаў.

Зайшоў у лес, а там коні з сёдламі. Я прабую на аднаго ўлезці з правага боку, бо з левага не магу — левая нага раненая, не магу на яе аперціся. Адвёў каня, каля яшча паставіў і нейк улез. Еду, спатыкаю жыда, салдата на кані. Кажа: „Едзем у горад, калі там жыды, то я з імі дагаваруся, а калі рускія — то ты дагаворышся”. Едзем, выязджаем з лесу, а тут сам генерал Сікорскі з пісталетам і з крыкам, што ўцякаем. Я змікіціў у чым справа і гавару:

— Не, мы не ўцякаем. Давудца нас выслаў, каб даведаліся, дзе можна коней напаіць.

Пра рану нават не ўспамінаю. Ён нам сказаў, каб ехалі лесам, скрываючыся, каб вораг нас не заўважыў. То мы як далі ў лес, то толькі ён нас і бачыў. Едзем далей, у адной з вёсак перавінуў нагу. Прыязджаем у нейкае мястэчка. Аказваецца — жыдоўскае. Злазьце з коней, гавораць. Далі нам паесці. Сказалі: ідзіце да Буга, там, за Бугам, рускія, яны вас распусцяць дадому. А за Хэлмам немец. Ну то мы падаліся да Буга, да рускіх. Прыйшлі над рэчку, адзін нас лодкаю перавёз. А тут ужо і рускія стаяць. Той мой жыд недзе ад мяне адкалоўся. Спаткаў я аднаго чалавека з Альхоўкі і з ім далей чыкілдаўся. Прыехалі мы ў Ковель. Тут рускія нас акружылі і ў палон. Пагналі нас на ўсход, у Расію. Вялі пяшком дзень і ноч. А есці то давалі так, што першай сотні дадуць, часам другой нейкія рэшткі астануцца, а апошнім аб'яўляюць, што ежа ўжо выдадзена. Часам на цэлы дзень даставалі костачку, на паўмезенца, цукру і ваду. Людзі слабелі з голаду, пачалі ўміраць. Я ўжо прылягаў: пасядзіш, пасядзіш, устанеш і, хістаючыся, далей ідзеш. Завялі на пляц за дротам. Я ўжо не сядаў, падпіраўся толькі, бо хто сеў, той і аставаўся сядзець на марозе. Тры самаходы трупаў аднаго дня вывезлі. Піліпаўка была, світала. Ідзем дарогаю, а побач бульба невыкапаная. Адбег я, тры бульбы выдзер, а тут мяне салдат штыком у задніцу. За мною і іншыя ў бульбу кінуліся. Салдаты нас ганяюць, а мы зноў і зноў да тае бульбы. На адпачынку зварыў і з'еў тую бульбу і крыху падужаў. Прывялі нас у стайню, дзе уланскія коні стаялі. Прыйшоў эшалон; усіх у эшалон пагрузілі. А ў вагонах цесната: усе бітком збітыя стаялі. Калі хто хацеў апаражніцца, падавалі яму манёрку, а потым праз вакно вылівалі. Адчэплівалі па тры апошнія вагоны. Калі нас адчапілі і выпусцілі, усе на зямлю без сілы пападалі. Завялі ў маёнтак; там морква ў полі яшчэ стаяла. Бачым — людзі робяць у стайнях нары. Гэта для вас, кажуць. Будзеце тут каменне біць, шашу для танкаў пракладаць. Ну, — думаю, — хана мне тут будзе. Ніхто яшчэ нас не спісаў, няма чаго тут далей сядзець. Я адтуль праз гай, праз садок, дзве кішэні яблыкаў прыбраў. Заходжу на хутар, каб паесці. Гаспадара не было дома, а гаспадыня сказала, што дзяцей накарміла і нічога ўжо не асталося. Але тут і гаспадар вяртаецца і загадвае жонцы накарміць мяне.

— Для дзяцей нічога не астанецца, — кажа яна.

— Ты дай гэтаму чалавеку есці! — загадаў. — Я быў у палоне ў Вільгельма і знаю, які гэта палонны хлеб.

Прынёс салому, я пераначаваў. Раніцай кажа:

— Риск — дело благородное! Калі цябе не спісалі, ідзі дадому.

Даў мне цывільную вопратку, баклажку малака, паўбуханкі хлеба. Пайшоў я, але як, куды далей ісці — не ведаю. Прыязджаю ў нейкае мястэчка. Зайшоў у нейкую хату; там на вячоркі моладзь пасходзілася. Прынеслі карту — пядзю дарогі на карце адмералі, што яшчэ была перада мною. Далёка, кажуць. Паспісваў я мястэчкі і пайшоў, хаваючыся. Зайду часам у нейкую хату, каб крыху есці далі, а там гавораць, каб за ежай у сельсавет ішоў. Неяк дайшоў да Бярэсця, распытаўся ў які поезд сесці. Прыехаў у Чаромху, перасеў на свой поезд і шчасліва дабраўся дадому. Прыйшоў але пра раны то і нічога не расказваў; толькі цяпер, пасля камуны, прызнаўся.

Саветы перад вайною з немцамі таксама мяне ў армію змабілізавалі. Паехаў з павесткай у Свіслач, у ваенкамат. А той ваенкамат ужо немцы разбамбілі. Няма ваенкамата і мы назад дадому пяшком парасходзіліся.

У вайну, калі прыйшоў немец, партызаны да нашай хаты прыходзілі, з Лядского. Расейцы; па-расейску гаварылі. Бабаш, міліцыянер, і Варацілаў са Свіслачы. Было з імі таксама крыху нашых. Радыёстанцыю ў нас трымалі, провалаку ў клуні расцягнулі. І жыды ў нас жылі, вопратку шылі: Ёсель, Абрам і жыдоўка Пэшка. Раз немцы зрабілі аблаву: тры фуры жандараў прыехала. На наш падворак прыйшло двох. Жыды пахаваліся. Я, на ўсякі выпадак, кажу Пэшцы:

— Завязвай на галаву хустку і скрабі бульбу; скажу, што ты мая сястра.

Прыходзіць немец пад вакно, стукае: „Ком!” Цесць мяне выпіхае, каб я да яго ішоў. Выходжу, двох немцаў стаяць, адзін з аўтаматам на ножках. Пытаюць пра партызанаў. Няма, кажу. А ў клуні провалака расцягнутая, а ў хаце жыды. Бачаць, нехта пайшоў дарогаю ў вёску. Немец свой аўтамат на плот паставіў і нацэліўся на яго: калі паверне ў бок лесу, гэта напэўна партызан і адразу па ім агонь. Але пайшоў проста ў вёску. У суседа жандары вобыск правялі, усё паўварочвалі, нават у скрыні заглядалі. Нічога не знайшлі. А ў нас нават у дом не заглянулі. Каб, крый Божа, тады павесілі б нас усіх. А партызаны часта ж да нас прыходзілі, уначы.

— Давай кушать, — гаварылі.

— Не дам, — адказваў я, — бо нельга; бярыце, калі хочаце, самі.

Як саветы пагналі немца, то змабілізавалі мяне ў Бераставіцу; чыгунку шылі. Мелі мабілізаваць у Ваўкавыск і на фронт пасалаць, але на чыгунцы асталіся. Два тыдні на пуцях працавалі: адна брыгада рэйкі выпроствала, другая дзіркі вярцела, а трэцяя пуць сшывала. Я працаваў свердламі; цяжка было, рукі млелі. Потым прыехаў афіцэр са Свіслачы і пытае, хто з якога сельсавета. І раздзялілі нас: хто быў з сельсавета на захад ад Ялоўкі, таго забралі ў Свіслач, у ваенкамат. Можаце ісці дадому, сказалі нам, няхай там вашы польскія ўлады займаюцца вамі. Але палякі не мабілізавалі, бо вайна ўжо скончылася.

А пасля вайны ўсё знішчана. Зямля слабая, грошы патрэбны: а іх няма. Зімою хадзіў у лес, у Масева. Дрэвы зрэзвалі і на калейку вазілі. А летам печы рабіў; ад цесця навучыўся. Трэба было фах шукаць, бо з самой зямлі цяжка было ўтрымацца. Спярша сабе печ паставіў, потым брату, а пасля то ўжо і людзям пайшоў стаўляць. Трыццаць гадоў печы стаўляў. Ад мяне ніхто гэтага фаху ўжо не вучыўся — маладыя не захацелі рук пэцкаць глінай.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### Беларуская краёвая абарона

Пасля абвяшчэння ў снежні 1943 г. „незалежнасці” Беларусі прэзідэнт Радаслаў Астроўскі ў лютым наступнага года абвясціў мабілізацыю ў Беларускую краёвую абарону. У БКА лічыліся сапраўднымі ўсе вайсковыя званні былых царскай, польскай і іншых армій, апрача савецкай Чырвонай Арміі. Кожны прызваны унтэрафіцэр і афіцэр найчасцей атрымліваў павышэнне на два—тры званні. Напрыклад, прапаршчык царскай арміі Іван Навіцкі з Кучкуноў у БКА атрымаў званне старшага сяржанта, а браты Мікалай і Юрка Садоўскія з Яблынаўкі, харунжыя польскага войска, сталі маёрамі. Жыхар вёскі Слабада Анатоль Пяткевіч — польскі капрал — у БКА служыў малодшым лейтэнантам. Усім удзельнікам слуцкага паўстання былі прысвоены афіцэрскія званні.

Вайсковыя падраздзяленні БКА былі патрыятычна настроеныя і намерваліся змагацца за сваю незалежную дзяржаву. Чакалі яны адпаведнага моманту, каб падняць барацьбу супроць ворагаў сваёй краіны. Немцы, відаць, штосьці прыкмецілі, бо ў палове чэрвеня 1944 г. беларускія вайсковыя фарміраванні пачалі пагружаць у цягнікі і перавозіць на заходні фронт у Францыю. Не ўсе афіцэры і жаўнеры БКА пагадзіліся з такім рашэннем акупацыйных улад, а многія з іх паўцякалі падчас транспарту. Уцекачамі аказаліся Іван Навіцкі ды браты Садоўскія. Пасля вызвалення Мікалай і Юрка Садоўскія былі арыштаваны органамі НКУС і прыгавораны да 20 гадоў зняволення. Пасля смерці Сталіна вярнуліся яны з турмы і як даваенныя польскія грамадзяне рэпатрыяваліся ў Польшчу ды пасяліліся ў Познані.

### Вызваленне з-пад нямецкай акупацыі

5 ліпеня 1944 г. зранку нямецкія войскі пакінулі вёску і наваколле. Жыхары, як гэта заўсёды бывала, падаліся на гасцінец у пошуках трафеяў. А можна было знайсці каштоўныя прадметы, напрыклад, матацыклы, ровары, швейныя машыны. Траплялiся нават коні, часам запрэжаныя ў павозкі.

Падаўся і я са старэйшым баратам Паўлам на гасцінец з намерам знайсці нейкага каня, бо нашага рэквізавалі адступаючыя немцы. Аднак нічога не знайшлі і я адправіўся ў Стоўбцы. Па дарозе назбіраў я поўны мяшок нямецкага абмундзіравання (кіцеляў, штаноў, шынялёў і плашч-палатак), зважаючы, каб не былі яны парваныя і заплямлены крывёю. Гэтае, як потым аказалася, выратавала мне жыццё. Калі набліжаўся я да горада, з кустоў выскачылі тры нямецкія салдаты, ды пацягнулі мяне ў глыб лесу, у зацішнае месца. Там пачалі распытваць мяне, куды я іду, ці не бачыў савецкіх салдат і хто страляе ў вёсцы. Я стаў тлумачыць, што іду ў горад, а на гасцінцы сустрэў не саветаў, а толькі ўласаўцаў, якія час ад часу страляюць (я схлусіў, бо ўласаўцаў не было там, а са знойдзенай зброі стралялі вяскоўцы; я сам кінуў гранату ў кусты). Немцы не маглі даўмецца, адкуль тут уласаўцы, але наўзабаве з'явіўся яшчэ адзін салдат, які павёў мяне ў штаб. Па дарозе я спрабаваў пакінуць няшчасны мяшок, але немец заўважыў гэтае і загадаў несці яго з сабою. Штаб размяшчаўся непадалёк хутара Алішкевіча каля вёскі Слабада. У хвойніку стаяла некалькі бронетранспарцёраў і танкаў, а ў акопах сядзелі салдаты з кулямётамі. Нямецкі капітан загадаў паказаць дакументы. Паказаў я акупацыйны „аўсвайс” ды стаў ім тлумачыць, што іду ў горад да брата, работніка чыгункі, каб разам уцячы перад саветамі ў Нямеччыну. Пасля дэталёвага допыту афіцэр стаў правяраць змесціва мяшка і высвятляць паходжанне трафеяў. Паколькі былі гэта новыя рэчы, не сцягнутыя з трупаў, аддаў іх салдатам, а мяне запытаў, ці не шкадую, што ён забраў маю здабычу. Я адказаў: „Вы забралі сваё, мне іх не шкада. Назбіраў я іх па дарозе, каб не змарнаваліся”. У мяшку былі яшчэ кансервы. Толькі адну банку капітан пакінуў мне, сказаўшы: „Ідзі хутчэй да свайго брата, а то ён сам паедзе, а ты адзін прападзеш тут”. Адначасова перасцярог ён, каб не ісці гасцінцам, бо ён пад абстрэлам. Адыходзячы, я тройчы нізка пакланіўся капітану і астатнім афіцэрам ды пайшоў полнымі сцяжынкамі ў напрамку горада, але потым (калі зышоў немцам з вачэй) павярнуў у бок роднай вёскі. Аднак не пайшоў я дахаты, а толькі вярнуўся на гасцінец за трафеямі. Шкада мне было страчанага дабра.

Выйшаў я на гасцінец, а тут едуць два грузавікі з савецкімі салдатамі. Мне адразу стала ясна, што яны ўсе загінуць у падрыхтаванай немцамі засадзе. Пачаў я тады крычаць і махаць рукамі, каб яны спыніліся. Адзін з савецкіх камандзіраў паклікаў мяне да сябе. Я стаў тлумачыць, што непадалёк знаходзяцца немцы, што вяртаюся ад іх. Савецкі камандзір мяне больш ужо не распытваў, а толькі схапіў за каўнер кашулі і ўвапхнуў у шафёрскую кабіну. Машыны павярнулі назад.

*(працяг будзе)*
**Юстын Пракаповіч**



# Наш крыж у Меляшках

25 жніўня 1995 г. распачалася ў Меляшках незвычайная сустрэча. У гэтую маляўнічую беларускую вёску (8 км ад Гарадка) прыехалі дзеці з Гукавіч, Крывой, Бельска, Чыжоў, Вілюкоў, Старыны, Падрэчан і Гарадка. Усе яны — карэспандэнты „Зоркі". Мастацкі пленэр, спалучаны з выстаўленнем праваслаўнага крыжа, сарганізавалі Ганна Кандрацюк — рэдактар „Зоркі" і наш славуты мастак Лёнік Тарасэвіч. Усе (каля 30 асоб) спачатку сустрэліся ў Гарадку і наведалі мясцовую царкву.

У пятніцу вечарам у Меляшках загарэлася вогнішча, пры якім дзеці сустрэліся з мясцовымі жыхарамі. Айцец Мікалай расказаў пра сімвал крыжа. Гарадоцкія дзеці праспявалі беларускія песні. Усім смакавалі пячаныя на вогнішчы каўбаскі.



*Ікону намаляваў Адам Сцепанюк, вучань І кл. Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім.*

На начлег прынялі нас тутэйшыя гаспадары. Добра дзеткам спалася ў вясковых хатах. Раніцай у суботу, пасля снедання, усе спакаліся побач святліцы, дзе з малебна пачалася праца над размалёўваннем крыжа. Усе з сапраўдным майстэрствам малявалі выявы святых. Калі скончылі размалёўваць крыж, паставілі яго побач двух ранейшых: ад 1946 і 1991 гадоў. Вёска Меляшкі цяпер сапраўды багатая на крыжы.

Сярод нас („мастакоў") знаходзіліся і паэты, і журналісты. Нават малая Наталька паспела паказаць усе свае магчымасці.

Пабыўка ў Меляшках выклікала ў нас зацікаўленне самой назвай вёскі. Мы пайшлі ў народ. На жаль, спатыкалі толькі прыезджых, то родам з Коматаўцаў, то з Веек. Бабуля Люба Лавіцкая (95 гадоў) раскрыла перад намі тайны назвы вёскі. Некалі заснавальнік і першы жыхар селішча зваўся Мялешка. Пры нагодзе бабуля Люба расказала крыху гісторыі вёскі. У час І сусветнай вайны ўсе жыхары былі ў бежанстве ў Расеі. Бабуля Люба даехала ажно за Іркуцк. Прыйшлося пачуць цікавую беларускую казку і загадкі:

Ішла пані ўначы<br>і згубіла ключы<br>Месяц бачыў, не падняў<br>Сонца ішло падняло. *(раса)*

Бочачка без накрыўкі і без дна<br>А ў ёй два сорты віна. *(яйка)*

Поўна бочка круп<br>а наверсе струп. *(мак)*

З Меляшкоў усе ад'язджалі з добрымі ўражаннямі і пачуццём выканання карыснай справы. Думаем, што надоўга ў памяці жыхароў Меляшкоў застанецца наш незвычайны пленэр. А напамінаць аб ім будзе каляровы крыж. Мы таксама назаўсёды запамятаем цёплы прыём у Меляшках, асабліва з боку сям'і солтыса. „Зорцы" дзякуем за магчымасць спаткацца і пазнаёміцца.

У Меляшкі прыязджаем,<br>Добрых людзей сустракаем,<br>Пры вогнішчы спяваем<br>І пра крыж аповедаў слухаем.<br>У суботу ўсе працуем:<br>„Зорка" ролі раздзяляе<br>І Лёніка павучае.<br>А ён фарбу разлівае<br>І кожнага працу захваляе.<br>„Мастакі" крыж малююць<br>І святых на ім рысуюць,<br>Каб людзей ад злога збавіць,<br>А дабро і шчасце славіць.<br>Аж шкада, што ад'язджаем<br>Хаця крыж тут астаўляем.<br>За гасціннасць Вашу ўдзячны<br>За абед і булкі смачны.

**Андрэйка Казёл (Гарадок), Крыстафор Яканюк (Крывая), Міхал Сцепанюк (Бельск-Падляшскі) разам з Ленай Глагоўскай.**

# Яшчэ пра сустрэчу

У час Мастацкай сустрэчы ўсе ўдзельнікі не толькі малявалі крыж, але і цікава праводзілі вольны час. У пятніцу мы наладзілі экскурсію па Гарадку. Незабыўнае ўражанне асталося пасля наведання царквы. Айцец Мікалай расказаў пра мінулае прыхода. Пры нагодзе мы вучыліся беларускай мове.

Калі заехалі ў Меляшкі, то найперш абышлі вёску. На загуменнях віднела высокая горка, і мы, зразумела, усе туды пабеглі. Як пазней расказалі найстарэйшыя жыхары вёскі, у час памору хавалі там нябожчыкаў. Таму і сёння гэтая горка выклікае шмат фантастычных і таемных расказаў. Калі мы сядзелі ля вогнішча і ласаваліся каўбаскамі, хлопцы з Гарадка пачалі гаварыць, што быццам бы на гэтай гары паказаліся касміты (іншапланецяне) і пасылалі нам святло. На жаль, апрача Паўліка, Грышкі і Андрэя, ніхто больш касмітаў не бачыў. Пазней, пасля вогнішча была дыскатэка.

Другі дзень мы пачалі з малітвы. Айцец Яўген Міхальчук пажадаў нам плённай і радаснай працы. Калі пачалі маляваць крыж, узніклі пытанні. Многія баяліся пачаць працу. Як першыя прыступілі да працы дзеці з Гарадка, якія ўжо рабілі падобную каплічку. За імі пайшлі і карэспандэнты „Зоркі". Мастацкі апякун Лёнік Тарасэвіч захапляўся творчасцю пачынальнікаў. Дзякуючы яго падтрымцы, Міхась Сцепанюк і Крыстафор Яканюк нарысавалі па тры іконы.

Калі юныя мастакі малявалі, нашыя паэткі Юліта і Міленка Яканюк, Бася Ляўчук і Яна Кандрацюк пісалі верш пра Меляшкі. Хлопцы, якія больш упадабалі сабе прозу, напісалі артыкул. Дапамагала ім спадарыня Лена Глагоўская з Гданьска. Разам з ёй прыехалі тры дзяўчыны, якіх мы называлі „эмігрыцыяй": Агата, Сандра і Караліна.

Яшчэ іншыя ўдзельнікі сустрэчы вучыліся звіваць вянкі для крыжа. Пад кіраўніцтвам кабет з Меляшкоў паўсталі чароўныя ўпрыгожанні.

Пасля абеду быў конкурс. Многія дзеці малявалі вёску або іконы. Пазней былі ўзнагароды, сярод якіх былі новыя касеты „Белага сну". Падарыла іх нам рэдакцыя „Часопіса".

Непаўторнае ўражанне атрымалася пасля заканчэння прац. У дзевяць гадзін вечара прыехаў айцец Яўген пасвяціць наш крыж. Зышлася ўся вёска. Людзі вельмі хвалілі наш крыж. Усе паўтаралі, што такога яшчэ нідзе не бачылі. Малітва адбылася пры запаленых свечках. Спяваў таксама царкоўны хор, які складалі жанчыны з вёскі. Развіталіся мы з імі пасля цёплай і сардэчнай пропаведзі святара. І калі раніцай трэба было ад'язджаць, мы яшчэ раз пайшлі паглядзець на свой крыж.

— Ай, каб такі помнік быў у маёй вёсцы, — думалі многія з нас.

**„З-ка" і карэспандэнты**



# ПАДЗЯКА

Рэдакцыя „Зоркі" сардэчна дзякуе суарганізатарам Мастацкай сустрэчы для нашых карэспандэнтаў і дзяцей з Меляшкоў ды Гарадка.

Перш за ўсё Лёніку Тарасэвічу за бескарыснае заангажаванне ў творчую працу з беларускімі дзяцьмі Беласточчыны.

Вялікі паклон належыцца таксама войту гміны Гарадок спадару Яўгену Семенюку і дырэктару Дома культуры пані Тамары Бурачэўскай.

Рэдакцыя выказвае таксама ўдзячнасць:

— солтысу вёскі Меляшкі Віктару Латышу і ягонай жонцы Лілеі,

— усім жыхарам вёскі, якія начавалі, кармілі і па-бацькоўску апекаваліся прыезджымі дзяцьмі,

— бурмістру горада Бельск-Падляшскі спадару Андрэю Сцепанюку,

— рэдакцыі „Часопіса",

— святарам Гарадоцкага прыхода айцу Мікалаю Астапчуку і айцу Яўгену Міхальчуку,

— інструктару і маладым спевакам з Гарадка за прыгожае выступленне,

— усім бацькам, якія паслалі свае дзеці на Мастацкую сустрэчу.

**Рэдактар „Зоркі"<br>Ганна Кандрацюк**



*Ікону намаляваў Пятрусь Дземянюк з Падрэчан, вучань VI кл. Пачатковай школы ў Чыжах.*

# Меляшкі

Прыгожая вёска Меляшкі,<br>у агародах растуць арэшкі.<br>На вуліцы дзеці гуляюць,<br>а ў хаце кніжкі чытаюць.<br>Тут маленькія хаткі,<br>а навокал градкі.<br>У вёсцы цёплая атмасфера існуе,<br>радасць і шчасце пануе.

**Мілена і Юліта Яканюк,<br>Бася Леўчук<br>разам з Янай Кандрацюк**

# Наш падарунак Меляшкам

**Фотарэпартаж Ганны Кандрацюк і Лены Глагоўскай з Мастацкай сустрэчы карэспандэнтаў „Зоркі"**



*Крыж з 35 іконамі — дар юных мастакоў.*



*Карэспандэнты „Зоркі" мелі магчымасць пазнаёміцца з сабою. На здымку: Томак Саевіч, Адам Сцепанюк і Пятрусь Дземянюк.*



*Жанчыны вучылі звіваць вянкі. Дзяўчынкі з Меляшкоў ім дапамагалі.*



*Лёнік Тарасэвіч кіраваў мастацкімі працамі. Апрача гэтага прагнаў ён дождж, які час ад часу палохаў нас.*



*Лілея і Віктар Латышы (солтыс з жонкай) па-бацькоўску апекаваліся нашымі дзяцьмі.*



*Айцец Яўген Міхальчук паблагаславіў нашы заняткі. На здымку (другая злева) — дырэктар Дома культуры ў Гарадку пані Тамара Бурачэўская.*



*У сям'і святара, айца Мікалая, спяваюць усе хлопцы. На здымку: жыхары вёскі, айцец Мікалай, пан Янак — інструктар музычнай дзіцячай групы і сыны бацюшкі.*



*Нас чакалі ў Гарадку не толькі мясцовыя, але і сябры з Гданьска.*




*БАРЫС РУСКО*

## Гульня

Дождж жоўтых лісцяў
малюе карціну спачатку.
Прастора палопалася,
а час бяжыць узбочча́м.
Восень гуляе з явай
і са сном, як мастак,
што ў далонях трымае
ніткі колераў

## Ноч у лістападзе

Найцяплейшая ноч у лістападзе
на могілках —
ад свечак
і кветак,
і пачуццяў.
Яны там белыя
і залацістыя,
як хрызантэмы,
і зіхатлівы, як агеньчыкі свечак,
і чыстыя, як любоў без зайздрасці.
Іх кветкі чырвоныя, як наша кроў.
Іх свечкі гараць, як наша жыццё,
іх пачуцці бяскрайнія,
як дабрыня ў бясчассі.

## Завяшчанне

Пергамент з выведзеным словам
„Прабачце"
ляжыць пад падушкай канаючага
спадчынадаўца.
Тлум у чакальні дрыжыць.

## Запрашэнне

Ламлю сплецене падзей
і фармую глыбу з уласнага ўяўлення,
шматбаковую,
увагнута-выпуклую, дзе можа скласці
петыцыю
кожнае дрэва і звіць гняздо птушка,
і адпачыць жабрак,
і выказаць боль паэт,
дзе можа абмыць рукі Бог.

## Захапленне

Бывай, мана! У далонях раніца
румяніцца,
як кветка прызначана любай.

## Няўлоўная

Глухія дзверы
і сляпыя вокны,
і мост разводны застыў у паўдарозе,
а ў вушах хор царкоўны,
а ў вачах пляма на зрэнках,
а ў тозе імглістай Яно,
як павеў,
вышэй і вышэй,
і ўсё датыкаю,
і ўсё лаўлю,
і ужо ў далонях,
ды не, няма...
як выбрык блазна ў вышыні.

## Адчыненыя дзверы

Прыходзяць,
а дзверы адчынены.
Малююць твары,
і карціны,
цела наколваюць
і пішуць вершы,
лічаць на костачках
і ў памяці,
голыя
і ў рукавічках,
а святыня поўная
і пустая,
а дарога простая
і вітая,
а думкі белыя
і чорныя,
і кроўю мыецца
закон
і беззаконне.
Адыходзяць,
а дзверы адчынены.

# Беларусь прыйшла!

*Працяг са стар. 1*

Найменшы ўдзельнік — малюсенькая кошачка. Ніяк яе згэтуль не выгнаць, путаецца пад нагамі, уцякае ад малое ўласніцы, якая носіць яе дахаты. Прыбяжыць яшчэ і на вячэру, якую падрыхтавалі выступаючым удзячныя жыхары вёскі (кожны ахвотна возьме на начлег артыстаў, частуе, чым мае). На школьным пляцы вогнішча палае далёка за поўнач, даносяцца адтуль песні і смех. У клубе Юрка Рурык чытае вершы. Сон не бярэ ні Слаўка (выступіў з падзякаю ад моладзі чамусьці на нейкай „рускай" мове, замест гаварыць „па-нашаму", па-семяноўску), ні Алега (усё ж не выступіў!), ні мяне, ні солтыса... Адчайнае кацянё узлазіць акцёру на плячо, а над ім ляцяць словы з Сысавага „Блуднага сына": *Ты спявай, ты спявай, ты свяці, ты свяці, рассцілай ручнікі, як сцяжыны, можа здарыцца так, я заблудну ў жыцці, тагды пайду па іх да Айчыны!*

Заўтра — у Тарнопаль. І да Валодзі Гайдука. На выступленні будуць і палякі. „Wiesz, ja tego nie rozumiem, ale to mi się podoba, — скажа варшавяк, якому прышпілілі беларускі значок. — Я юж естэм бялорусін!"

— У нашай „вандра-крыжаванцы" я разгадаў слова *носьбіт*. Гэта „той, хто ведае, што хоча і робіць, што можа", — кажа Юрка Рурык. — Якраз гэтыя пяць гадоў кожная вандроўка дапамагае нам, каб быць носьбітамі. Робім тое што можам у Беларусі ў тых варунках, якія ёсць. У мінулы раз мы прыязджалі сюды з думкай: „Во, мы прыехалі з мітраполіі, тут жывуць беларусы, мы ім пакажам, як у нас там у Беларусі спяваюць, вершы чытаюць, а калі яшчэ па-беларуску ўсе не гавораць, дык праз год гэта будзе". Зараз гэтага адчування няма. А з якім мы адчуваннем едзем туды, назад?! Уласныя праблемы — гэта нішто.

— Іх калектыў — гэта ідэал для мяне, — кажа пра тэатр „Жывое Слова" Янка Мордань. — Гэта не маналіт. Кожны чалавек розны. І кожны глядзіць, што яшчэ новага ўнесці ў свой тэатр.

— Наш тэатр існуе трыццаць гадоў, — успамінае Юрка Чарэнка. — Амаль усю Беларусь з'ездзілі. За апошні навучальны год мелі 50 выступленняў. Для аматарскага тэатра гэта няблага. А сюды будзем ездзіць, дакуль будзем магчы. Гэта і нам трэба. Бачым у гэтым сэнс.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**



*З семяноўскім солтысам (у цэнтры) за адным сталом.*




## У справе Гданьскага аддзела БГКТ

У 34 нумары тыднёвіка „Ніва" ад 20 жніўня 1995 г. быў надрукаваны артыкул Г. Глагоўскай і М. Куптэля „Што з Гданьскім аддзелам БГКТ?" Уся „фактаграфія" і рыторыка паказаных у гэтым матэрыяле спраў моцна здзіўляюць і абураюць. Дарагія гданьскія дзеячы! Галоўнае праўленне БГКТ у 1992 годзе, як наймальнік памяшкання пры Доўгім Таргу 8/10 у Гданьску, сапраўды скасавала ўмову са Збожжавым прадпрыемствам таму і толькі таму (аб чым вы дасканала ведаеце), што не мела магчымасці плаціць вельмі высокай арэнднай аплаты і вельмі высокай задоўжанасці. Не памаглі нашыя многія размовы і просьбы ў пісьмовай форме. Нам пагразілі судом і тады мы былі прымушаныя аддаць памяшканне. На жаль, ніхто з гданьскіх дзеячаў справай не зацікавіўся і ў нічым не дапамог, хаця была яна ўсім вядомая, а памяшканнем карысталіся ўсе беларускія арганізацыі.

Трэба тут зрабіць заўвагу, што калі хтосьці камусь дае памяшканне ці нешта іншае бясплатна, то з гэтага яшчэ не вынікае ніякая добрая, спрыяльная паслядоўнасць для ГП БГКТ. Доказам гэтага з'яўляюцца факты. Гэта не мы аддалі, а нам забралі памяшканні аддзелаў у Саколцы, Дуброве-Беластоцкай, Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім (суд!), Варшава (разбой), а ў Беластоку справа таксама „вісіць на валаску". І гаварыць у такой сітуацыі, што вы пры вялікім намаганні знайшлі памяшканне — гэта проста немаральна! Вы знайшлі, але плаціць павінна ГП, якое так „прыгожа" абмалёўваецца ў „Ніве". Дзіцё ведае, што цяпер, калі маеш грошы, дык без ніякіх стараннаяў можаш знайсці дзесяткі памяшканняў не на працягу месяцаў ці гадоў, а на працягу аднаго дня. А ГП грошай не мае і таму цяпер таксама плаціць арэнду не ў змозе. Узяўшы пад увагу мой візіт у Гданьскім аддзеле ў 1993 годзе, размовы з дзеячамі БГКТ, з прэзідэнтам горада, а таксама дзесяткі пісьмаў, якія высылаў ад імя ГП у гарадскую самаўправу і да прадстаўнікоў цэнтральных улад у справе памяшкання для беларускай культуры ў Гданьску, пры абсалютнай пасіўнасці мясцовых дзеячаў БГКТ і іншых беларускіх арганізацый, выказванні аўтараў з'яўляюцца фальшывымі і крыўднымі. Думаю, што намнога лепш было б, каб сваю актыўнасць накіравалі вы на здабыванне грошай на арэнду, або на размовы з гарадскімі ўладамі ў справе памяшкання не для аддзела (бо гэта незаконна), але для патрэб беларускай культуры. Дафінансаванне культуры горада гарадской самаўправай гэта яе абавязак. Трэба старацца, так як мы гэта робім доўгі час, каб улады горада дафінансавалі беларускую культуру мінімум на ўзроўні арэнднай аплаты за памяшканне пры вул. Альжбятанскай 10/11.

У сувязі з тым, што ГП фінансавых сродкаў не мае, справа памяшкання для патрэб беларускай культуры ў Гданьску, так як і справа будучыні аддзела БГКТ можа вырашацца мясцовымі дзеячамі і гарадскімі ўладамі, згодна з прынцыпамі дэмакратыі.

А уплыў рэферэндуму на адносіны старшыні ГП БГКТ да вас з'яўляецца прыблізна такім, як уплыў плямаў на сонцы на інтэлігентнасць і мараль Г. Глагоўскай і М. Куптэля.

Шлю прывітанні ў Гданьск

**Я. Сычэўскі**
**Старшыня ГП БГКТ**




## „НІВА" РОБІЦЬ ВЯЛІКУЮ СПРАВУ

Дастаю і чытаю „Ніву" ў далёкай Аўстраліі ўжо 8 месяцаў. З вашай газеты даведваюся шмат чаго пра Беларусь, што ў свой час, жывучы ў БССР, не мог ведаць. З трыццатых гадоў праўду пра Беларусь захавалі ў асобыя архівы, да якіх не было доступу. Забароненыя былі ўсе кнігі па гісторыі і геаграфіі Беларусі, пачаўся татальны наход, наступ супраць усяго беларускага. Народ, падрастаючае пакаленне ні ў школах, ні ў вышэйшых навучальных установах не вывучалі гісторыю Беларусі, геаграфію. Мову беларускую жорстка русіфікавалі. У 1934 г., калі я паступіў на гістфак БДУ, каб вывучаць гісторыю Беларусі, арыштавалі акадэміка Шчарбакова, які заснаваў Кафедру гісторыі Беларусі. Падручнік яго аўтарства забаранілі, як „шкодны", „нацдэмаўскі". Гісторыю Беларусі вывучаць забаранілі. Вывучалася толькі гісторыя БССР у складзе СССР. Адкуль жа ведаць беларускім людзям праўду пра Пагоню, пра бел-чырвона-белы сцяг і іншае?! Вось і вынікі астатняга рэферэндуму. Калі я пайшоў у І клас беларускае школы ў 1919 г., то дваццатыя гады, калі ў БССР яшчэ была дазволена беларусізацыя і яшчэ не так фальшывілі гісторыю, мову, звычаі, мяне навучалі добрыя беларускія настаўнікі. Гэтае засталося ў мяне да сённяшняга дня. Цяпер трэба вярнуць ва ўсіх школах — ад пачатковай да вышэйшай — вывучэнне гісторыі, геаграфіі і мовы Беларусі ў яе праўдзівым навуковым і гістарычным асвятленні.

Газета „Ніва" робіць вялікую нацыянальна-выхаваўчую справу, калі беларускім дзеткам адводзіцца многа ўвагі і дазваляе ім выказвацца на сваіх старонках. Што заложыцца ў галаве з маленства, тое застанецца на ўсё жыццё. Ведаю гэта па самім сабе.

Хацеў бы, не паказваючы пальцам на асоб, сказаць аб адмоўным у „Ніве", калі робіце „сваркі" з-за дробязей. Нашая бяда, што мы „сварлівыя". Непрыяцелі нашы заўсёды нацкоўвалі беларуса на беларуса, а потым выкарыстоўвалі гэтае ў сваіх мэтах. Так павялося здаўна ад Рэчы Паспалітай, а асабліва ў Расейскай імперыі ды самае інтэнсіўнае было ў БССР і цяпер у РБ. Гэтае рабілі і нямецкія акупанты. Яны імкнуліся вынішчыць нас нашымі рукамі. Правакавалі і нацкоўвалі беларуса на беларуса, спабарнічалі ў гэтым з бальшавіцкімі партызанамі. Нямала загінула беларусаў праз сваю дурноту! Калі ж мы станем чуйнымі і ўсвядомім гэтае?! Мы не адчуваем сябе, як нацыя! Крытыка не павінна пераходзіць у лаянку.

Захаванне старых назваў вёсак, мясцін, вуліц, якія здаўна былі названыя нашымі прашчурамі, трэба захоўваць — гэта пашана іх і саміх сябе. Нельга гуляць у „палітыку" з гістарычнымі назвамі. У Савецкай Беларусі пазамянялі назвы гарадоў, вуліц, раёнаў і г.д. Койданава стала Дзяржынскам, вуліцы К. Каліноўскага далі імя Кагановіча. Калгас К. Каліноўскага сталі называць імем Фрунзе. А ўсе вуліцы ў г. Менску! Вуліца Варашылава, Молатава, Мяснікова, Куйбышава, Камуністычная, Свярдлова, Урыцкага, Камсамольская і г.д. За 20 гадоў у БССР назвы вуліц змянялі 3—4 разы! Там у жыхароў не пыталіся іх думкі. Загадвалі партыйныя чыноўнікі!

Ці магла б „Ніва" распачаць лінгвістычна-навуковую рубрыку з мэтай дыскусіі пра чысціню беларускай мовы. Я вучыўся беларускай мове па Язэпу Лёсіку, Тарашкевічу і перавучваўся па саветызавана-русіфікаваных зменах. Цяпер мова настолькі русіфікавана, што я раблюся непісьменным. Граматыка і правапіс увесь час набліжаліся да расейскай. Страцілі яны свой нацыянальны каларыт! У РБ, здаецца, цяпер не збіраюцца гэтым займацца. Набліжэнне да Расеі гэтага не патрабуе.

**Сымон Шаўцоў,**
**Аўстралія**

# 13-ая нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 21:33—42)*

У 13-ую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 21-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім перадаецца прытча пра вінаграднік і вінаградараў. Слухачы лёгка зразумелі, што прытча ў пераносным сэнсе гаворыць пра суадносіны паміж Богам і яўрэйскім народам. Уласнік вінаградніка — гэта Бог; вінаградары — выбраны народ, агароджа сімвалізавала Божыя запаведзі. Вінаградары абавязаны былі аддаваць уласніку акрэсленую частку плёну, аднак гаспадаровых пасланцоў яны білі або забівалі, не пабаяўшыся забіць нават гаспадаровага сына. Гэтак жа Бог пасылаў пракаў для апавяшчэння сваёй волі і заклікаў выбраны народ да раскаяння, аднак яўрэі не прымалі іх і нават забівалі. Урэшце ва ўлюбёным Сыне слухачы выразна зразумелі намёк на Хрыста, Які пасланы быў дзеля вучэння людзей і якому яны ўжо рыхтавалі смерць. Гледзячы са спачуваннем на праследаваццеляў, Ісус дадаў: „Няўжо ж вы ніколі не чыталі ў Пісанні: камень, які адкінулі будаўнікі, той самы стаўся галавою вугла; гэта сталася ад Госпада і ў вачах нашых дзіва” (Матф., 21:42).

Выбіраючы прароцтва пра адкінуты камень, Хрыстос меў на думцы сапраўднае здарэнне. Будаўнікам Саламонавага храма даставілі аднойчы камень незвычайнай велічыні і формы. Закінуты як непрыдатны, ён валяўся, пакуль спатрэбілася выканаць навугольнік. Будаўнікі зразумелі тады, што дзеля стабільнасці цэлай будоўлі патрэбен камень выключнай моцы і ўстойлівасці. Тады будаўнікі ўжылі камень, які пратрываў дзеянне сонца, паветра і дажджу ды дакладна пасаваў на сваё месца.

Гэтае прароцтва Ісаіі Хрыстос адносіў да Сябе. Для адных Ён заўсёды быў краевугольным каменем, а для іншых — каменем спатыкнення. „Вы, збудаваныя на фундаменце апосталаў і прарокаў, маючы краевугольным каменем самога Ісуса Хрыста, на Якім уся пабудова разам змацаваная расце ў святы храм у Госпадзе, на якім і вы разам будуецеся на жыллё божае Духам” (Эф., 2:21—22).

Аб тым, што Хрыстос з’яўляецца краевугольным каменем нашага жыцця найлепш сведчылі прыгожыя звычаі сялянскага побыту, на жаль, цяпер амаль забытыя. Калісьці, перад тым як сесці за стол, дамачадцы маліліся. Знакам крыжа пачыналі кожную працу, а маткі рабілі знак крыжа на падушцы дзіцяці і на кожнай буханцы хлеба. Каплічкі ля дарог, крыжы, іконы, свечкі і свячаная вада ў хатах паказвалі, што нашы продкі лепш разумелі, што Хрыстос сапраўды з’яўляецца краевугольным каменем усіх сфер жыцця. Працай, адпачынкам, ежай, сном і нават забавай яны шанавалі Бога і намагаліся жыць у гармоніі з Ім.

Некалі філосаф Шэлінг, вылажыўшы сваю філасафічную сістэму, заявіў студэнтам: „Цяпер і я магу, як Хрыстос, сказаць пра сябе: я — праўда, дарога і жыццё”. Сфармуляваная ганарлівым філосафам сістэма выклікала тады кпіны, а цяпер нават пра самога Шэлінга ведаюць толькі спецыялісты. Гэтак жа пра Леніна з пафасам гаварылася ў свой час, што ён „вечна жывы”, а ягоныя ідэі — „несмяротныя”. Адзінай слушнай лічылася ў свой час таксама генетычная тэорыя Трахіма Лысэнкі, а тыя, хто асмеліўся думаць інакш, згнілі ў Сібіры. У мінулым наогул узнікала мноства тэорый, якія ў свой час лічыліся неаспрэчнымі і дасканалымі, за якія некаторыя фанатыкі гатовы былі аддаць жыццё, аднак з часам выяўляліся памылковымі і мелкімі. Егіпецкія фараоны ўвекавечвалі свае імёны грандыёзнымі пірамідамі, каралі засноўвалі дынастыі, вучоныя выпісвалі мора атраманту, аднак будоўлі рассыпаліся, імперыі развальваліся, парахнелі кніжкі поўныя мудрагельства, ды пра іхных аўтараў мала хто і памятае. Час паказаў, чаго яны былі ў сапраўднасці вартыя.

Калі трываласць ідэі, ейны ўплыў на лёс чалавецтва і памяць пра стваральніка ідэі з’яўляюцца прыкметай вартасці, дык Хрыста трэба прызнаць сапраўдным краевугольным каменем новай гісторыі. Год ягонага нараджэння лічыцца пераломнай датай і пачаткам нашай эры. Ужо дваццаць стагоддзяў жывем пад уплывам хрысціянскай культуры і Хрыстовай думкі. Ніхто іншы не паўплываў у такой ступені на чалавецтва, на заканадаўства, асвету, мараль і штодзённае жыццё як Настаўнік з Назарэта.

Некалі на пытанне азлобленых праціўнікаў хрысціян, адзін з яўрэйскіх старшын Гамаліель заявіў: „Калі ад людзей — гэтаксама змарнее, а калі ад Бога — не здолее знішчыць яго” (Дзеі, 5:38—39). На фундаменце чалавечых аўтарытэтаў немагчыма пабудаваць нічога трывалага. Ёсць, аднак, імя, якое не зважаючы на ўвесь ваяўнічы атэізм, праследаванне і высмейванне, далей застаецца на вуснах і ў сэрцах мільёнаў людзей. Гэта і ёсць той „адкінуты будаўнікамі камень, які стаўся галавою вугла”.

**а. Канстанцін Бандарук**



*Кленікі. Праваслаўная капліца.* **Мал. Б. Ф. Рудкоўскага**




NICZYPOROWICZ Janusz: Cień wielkiej rury. (Reportaż z pogranicza białoruskiego). *Przegląd Tygodniowy* 1995, nr 14, s. 9.

(nik): Jak po grudzie. Dotychczas jedynie mieszkańcy Łańczyna, gm. Narewka, opowiedzieli się za zmianą nazwy swojej wsi. *Kurier Podlaski* 5-6.08.1995 r., nr 177 (3105), s. 1, 2.

(nik): Przyjaciel Białorusinów (Włodzimierz Cimoszewicz). *Kurier Podlaski* 8.08.1995 r., nr 179 (3107), s. 1, 2, il.

(nik): Białoruska powtórka. Tym razem z Krynic. *Kurier Podlaski* 10.08.1995 r., nr 181 ( 3109), s. 3.

PARADOWSKI Stanisław H.: Po omacku: korespondencja z Mińska. *Przegląd Tygodniowy* 1995, nr 13, s. 6.

PARADOWSKI Stanisław H.: Wycofać stolicę do Kowna: korespondencja z Mińska. (Stosunki białorusko-litewskie). *Przegląd Tygodniowy* 1995, nr 18, s. 6-7.

PAŹNIAK Zianon: Poligon Moskwy. (Sytuacja polityczna przed referendum). Rozm. przepr. Urszula Mikołajczyk. *Wprost* 1995, nr 18, s. 69-70.

Polska — Białoruś 1918-1945. Warszawa 1994; Rec. TARKA Krzysztof, *Ład* 1995, nr 20, dod., s. IV.

PROBLEMY ochrony przyrody nadbużańskiej: polsko-białoruska konferencja ekologiczna (materiały). *Podlaski Kwartalnik Kulturalny* 1993, nr 1, s. 1-59.

ROMANOWSKI Andrzej: Pożegnanie z Białorusią. (Wyniki referendum). *Tygodnik Powszechny* 1995, nr 22, s. 6.

(RR): Emisja dla Białegostoku. Program dla mniejszości białoruskiej raz jeszcze. *Gazeta Współczesna* 10.08.1995 r., nr 154 ( 13306), s. 3.

SEMENOV Aleksandr: Znów o Armii Krajowej. (Na marginesie książki "AK na ziemi białoruskiej"). *Ład* 1995, nr 15, dod., s. IV.

SIEMASZKO Zbigniew Sebastian: Wilno i Lachowszczyzna. *Kultura* 1995, nr 1/2, s. 136-144.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Wielka klęska na Białorusi. (Wojna polsko-bolszewicka). *Tygodnik Solidarność* 1995, nr 20, s. 15.

WILCZAK Jagienka: Zimna wojna domowa. *Polityka* 1995, nr 17, s. 9.

ZAŁOŻENIA reformy edukacji w Białorusi. Oprac. Walentyna Wróblewska. *Nowa Szkoła* 1995, nr 2, s. 40-41.

**Р. С.**

# Граматыст і паэт з Падляшша

*—Ваш першы артыкул „З кагорты пачынальнікаў” (Полымя, 1988, н-р 3) быў прысвечаны вельмі цікавай асобе — Івану Ужэвічу, у жылах якога, на думку вучоных, побач з сербскай цякла і беларуская кроў, продкі якога паходзілі з Падляшша, — звяртаемся да доктар АЛЕНЫ ЯСКЕВІЧ, вядомага нам ужо філолага з беларускай Акадэміі навук. — Хацелася б пачуць ад вас колькі слоў пра постаць нашага славутага земляка.*

— З выдадзенага ў 1950 г. „Спісу студэнтаў Кракаўскага універсітэта”, што ахоплівае перыяд навучання з 1608 па 1642 г., мы даведваемся пра залічэнне 28 кастрычніка 1637 г. Івана, сына Пятра, Ужэвіча ў штат студэнтаў. З кракаўскага перыяду дайшлі да нас толькі яго паэтычныя творы пераважна панегірычнага жанру. Так у працы В. Мацяёўскага „Стан польскага пісьментва ад часоў старажытных да 1830 года” ўспамінаецца пра даволі значны па памеру панегірычны твор-прысвячэнне І. Ужэвіча на шлюб Аляксандра Пшылецкага з Евай Рупнеўскай (1641 г.). Асаблівую цікавасць, на думку даследчыкаў, уяўляе эпілог панегірыка, дзе І. Ужэвіч „апісаў асобу гаспадара, яго жыллё і харчаванне, у канцы іранічна вызначыў яго долю, трапна абараніўшы сябе ад магчымай крытыкі на будучае”. Другі свой твор, васьміарадковы верш з фамільным гербам у гонар паноў Пшылецкіх аўтар пазней паўторна змесціць у рукапісе сваёй „Граматыкі”. Відаць універсітэцкі дыплом тады абавязваў да валодання версіфікацыяй. Невыпадкова старажытныя граматыкі мелі спецыяльныя раздзелы рыторыкі і прасодыі, рэшткі якіх мы знаходзім у „Граматыцы” Лаўрэнція Зізанія. Адносна паходжання Івана Ужэвіча вучоныя выказвалі меркаванне, што „стваральнік яе („Граматыкі”) быў хутчэй за ўсё рускім з Польшчы.”

Навукова абгрунтаваны погляд па паходжанне нашага суайчынніка выклаў Мартынаў у сваёй бібліяграфічнай працы „Славянскія рукапісы ў дзяржаўнай бібліятэцы Парыжа”. Ён лічыць Ужэвіча рускім з паўднёва-заходніх (г.зн. падляшскіх) зямель, бо ягоны трактат аформлены згодна з традыцыямі не заходнерымскага, а ўсходневізантыйскага хрысціянскага артадокса.

*— У вашым выданні Іван Ужэвіч, відаць, будзе прадстаўлены найперш як граматыст?*

— Так, як аўтар „Граматыкі славенскай”. Задума Івана Ужэвіча нагадвае тое, што пазней будуць рабіць у тым жа Парыжы гадаванцы беларускай зямлі Аляксандр Рыпінскі, Адам Міцкевіч, выводзячы закінуты край, яго старажытную культуру ў вялікі свет народаў.

Трактат Івана Ужэвіча належыць аднесці ў значнай меры ўжо да навуковых граматык, бо „Граматыка славенская” ўяўляе сабой не „вучэбную граматыку” ў ранейшым яе разуменні як дапаможнік па царкоўнаславянскай мове, а ў істотным сэнсе граматыку навуковую. Угадваецца мэта, якой быў натхнёны наш суайчыннік, знаходзячыся ў цэнтры навуковага свету. Сваёй граматыкай ён хацеў пазнаёміць замежнага чытача са сваёй Радзімай, яе багатай і дасканалай мовай. Калі ў кракаўскі перыяд Іван Ужэвіч выявіў сябе як паэт, то на французскі перыяд прыпадаюць яго граматычныя зацікаўленні. Існуюць два варыянты рукапісу „Граматыкі славенскай” — парыжскі (1643 г.) і араскі (1645 г.).

Упершыню на рукапіс Івана Ужэвіча спасылаўся візантолаг Бандуры ў сваіх нататках „Усходняя дзяржава або канстанцінопальская старажытнасць. Аб кіраванні дзяржавай”, надрукаваных у 1711 годзе ў Парыжы і паўторна выдадзеных у 1729 годзе ў Венецыі.

Асаблівую ўвагу да прац Івана Ужэвіча праявілі славянскія даследчыкі. Нельга забываць, што пералом XVIII—XIX стагоддзяў — эпоха ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху заходніх і паўднёвых славян, абуджэння нацыянальнай годнасці і ўвогуле самая напружаная пара ў фарміраванні славянскіх нацый. Славянскія мовазнаўцы пры складанні сваіх граматык абапіраліся на вопыт Івана Ужэвіча. У прыватнасці вядомы даследчык славяншчыны Йозеф Дабраўскі ў сваіх „Асновах славянскай мовы”, спасылаючыся на матэрыял Варфаламея Копітара, прыводзіць звесткі пра рукапіс Івана Ужэвіча 1643 года.

Хоць у гэтым Івану Ужэвічу пашчасціла. Яго літаральна адкрылі свету „будзіцелі славян”, аўтарытэты сусветнага мовазнаўства, абодва замежныя члены Расійскай Акадэміі навук чэх Йозеф Дабраўскі і яго малодшы сябра славенец Варфаламей Копітар. Ім імпанавалі яго адважны палёт навуковай думкі, туга па велічы Радзімы, якую пачынаў абыходзіць лёс.

Зацікавіўся працамі таленавітага студэнта Сарбоны і рускі вучоны Сяргей Строеў, аўтар „Апісання помнікаў славяна-рускай літаратуры, захаваных у публічных бібліятэках Германіі і Францыі са здымкамі з рукапісаў” (1841 г.).

Гонар адкрыцця араскага рукапісу належыць Вартаславу Ялічу, які ў 1907 г. у берлінскім часопісе „Архіў славянскай філалогіі” змясціў нататкі „Іван Ужэвіч, граматыст XVII стагоддзя”.

Па сутнасці Іван Ужэвіч апісвае не мову XVII стагоддзя, а ўжо працэс складвання новай літаратурнай мовы на класічным узоры, на жаль, у пазнейшыя часы ад класічных арыентацый у складванні беларускай мовы адступіліся. У гэтым і прычына ўсіх крызісных з’яў у ёй і яе дыялектах.

**Запісала**
**Міра Лукша**

# Атаман Перагуд і яго партызаншчына

*Друкуем артыкул Сяргея Ёрша і ўспаміны Івана Перагуда не таму, каб паказаць кавалак забытай гісторыі, але таму, каб прадставіць тэхналогію стварэння міфаў. Малады гісторык Сяргей Ёрш са Слоніма паверыў у праўдзівасць слоўэміграцыйнага дзеяча пра яго змаганне за вольную Беларусь, забываючыся пра тое, што пісаў ён свае ўспаміны ў далёкай Бразіліі і са свядомасцю, што ніхто не праверыць праўдзівасці пададзеных ім фактаў. У дакументах няма следу, што на Беласточчыне ў 1945—1947 гадах змагаўся з польскім падполлем нейкі беларускі антыкамуністычны атрад, які прыйшоў сюды з-за керзанскай лініі. Уяўленне Івана Перагуда пра арганізацыю ОРМО і самаахову на Беласточчыне ці наогул пра сітуацыю тутэйшых беларусаў у 1945—1947 гадах даволі цьмянае. Малапраўдападобнае і тое, што пададзеныя Перагрудам факты, якія адносяцца да яго дзейнасці ў 1920—1945 гадах ёсць праўдзівыя. На жаль, але ў такі спосаб ствараецца часам гісторыя.*

рэд.

Ужо 50 гадоў прайшло пасля заканчэння другой сусветнай вайны, а мы ўсё яшчэ не ведаем імён тысяч беларускіх патрыётаў, якія самаахвярна змагаліся за незалежнасць Бацькаўшчыны ў партызанскіх аддзелах Беларускай народнай партызанкі (БНП). Адным з кіраўнікоў гэтай партызанкі быў атаман Іван Перагуд, пра якога трэба сказаць колькі слоў.

І. Перагуд нарадзіўся ў 1898 г. на Піншчыне. Калі на пачатку 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі разгарнуўся антыпольскі партызанскі рух, Перагуд добраахвотна ўваходзіць у атрад атамана Мухі. Пасля захопу атрада чэкістамі К. Арлоўскага, Іван Перагуд з некалькімі сябрамі ўцякае да патрыятычнага аддзела атамана Харэўскага, які ўваходзіў у 5-ую Групу партызанскіх войскаў БНР. Збройная барацьба была спынена ў 1925 г. і атрад самараспусціўся. Перагуд больш дзесяці гадоў жыў пад чужым імем на Валыні.

Напярэдадні нямецка-польскай вайны ён удзельнічаў у нелегальнай канферэнцыі былых грамадоўцаў, на якой было пастаноўлена выступіць збройна супраць палякаў на выпадак вайны з Нямеччынай, каб утварыць незалежную Заходне-Беларускую Рэспубліку (ЗБР). Ужо з першага дня вайны Перагуд у лесе арганізаваў партызанскі аддзел і дзейнічаў на Драгічыншчыне. Уступленне Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь сарвала ўсе планы паўстанцаў. Да чэрвеня 1941 г. атаман Іван Перагуд знаходзіўся на нелегальным становішчы. Летам 1941 года ён стварыў партызанскі атрад на Марачаншчыне і дзейнічаў у раёне Ратна, Жабінкі, Драгічына і Дзівіна. У 1942 г. прыняў удзел у двух канферэнцыях камандзіраў (атаманаў) Беларускай народнай партызанкі, якая ў другой палове 1943 г. была знішчана дэсантнікамі НКВД на чале з палкоўнікам Р. Ліньковым (Льдоў, „Баця"). Аддзел Перагуда ацалеў і перахоўваўся ў прыпрыпяцкіх балотах. Яшчэ некалькі гадоў перагудаўцы ваявалі супраць бальшавікоў і польскіх нацыяналістычных партызан, а пасля прабіраюцца ў Заходнюю Нямеччыну. Але і за мяжой за партызанамі сачыла савецкая дзяржбяспека. Атаман разам са сваімі жаўнерамі выехаў у Паўднёвую Амерыку, дзе, здавалася, яны не будуць у небяспецы. Але і там іх стралялі агенты КДБ. Пры таямнічых абставінах загінуў са сваім ад'ютантам камандзір славутага атрада БНП імя атамана Нябабы Харэўскі (Новік). Іван Перагуд жыў у Бразіліі, ажаніўся з мясцовай жанчынай. Ён не застаўся ў баку ад беларускага руху, стаў старшынёй Саюза былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленне Беларусі на Паўднёвую Амерыку. Рэгулярна праводзіліся сустрэчы ветэранаў БНП, якія жылі ў Парагваі, Аргенціне, Балівіі і іншых краінах. Іван Перагуд супрацоўнічаў з газетай „Беларускі голас", якую ў Таронта выдаваў Сяргей Хмара, друкаваў у ёй свае мемуары. Ім былі напісаны вялікія ўспаміны „Партызанская дзейнасць". Памёр атаман Перагуд у 1984 годзе ў Белу-Арызонты (Бразілія).

Увазе чытачоў „Ніы" прапануем ягоныя ўспаміны, прысвечаныя разгрому польскіх нацыяналістычных лясных атрадаў на Беласточчыне ў 1947 г. Атаман Перагуд адкрывае невядомую дагэтуль старонку барацьбы беларускіх партызан супраць польскіх нацыяналістаў. Засталося толькі дадаць, што ўспаміны гэтыя былі надрукаваны ў „Беларускім голасе" ў кастрычніку 1977 г.

**Сяргей Ёрш**

# Крывавыя ўгодкі

З „Нівы" даведаўся я аб святкаванні беларусамі Беласточчыны пад Польшчай знамянальных угодкаў: зламання хрыбта польскім нацыяналістам, якія да 1947 года рабілі сваю крывавую расправу над мясцовым беларускім насельніцтвам, прабуючы дзікім тэрорам, паленнем вёсак і пагалоўным выбіваннем у іх людзей, змусіць усіх беларусаў перасяліцца ў СССР.

Паводле ўмовы паміж СССР і польскім камуністычным урадам, беларусы з Беласточчыны мелі быць перасelены ў СССР, але не шмат беларусаў хацела пакідаць родныя мясціны. Тады на дапамогу савецкім наганятым прыйшлі польскія ўзброеныя нацыяналісты з лясоў, якія фактычна ў 1945-46 гадах панавалі ўначы над вёскамі Беласточчыны. Яны папросту давалі наказ, каб у цягу акрэсленага часу ўсе праваслаўныя беларусы (католікаў пакідалі) выбраліся да „руска", а калі не, дык вёску спаляць. Разам з гэтым праводзілі індывідуальны тэрор: забівалі ўсіх, хто вядомы быў як свядомы беларус, ды яшчэ дзейны, нават на царкоўным полі, рабавалі апошнія пажыткі, кароў, свіней, у каго былі, кажухі і іншае.

Беларусы не хочачы выязджаць у СССР, звярнуліся да польскай камуністычнай улады, якая па-за Беластокам, Бельскам, ды вялікшымі мястэчкамі, панавала над Беласточчынай толькі намінальна і толькі ўдзень, каб далі беларускім вёскам зброю для абароны перад бандамі. Улада згадзілася, бо іншага выйсця не мела. Беларусы стварылі ва ўсіх вялікшых вёсках самаабарону — міліцыю ОРМО на чале са сваімі камандзірамі, каля 2000 чалавек і пачалі супраціўленне нацыянальным бандам, якія азвярэлыя, пачалі крывавыя напады, падпалы вёсак з пагалоўным нішчэннем насельніцтва, як Залешаны, Кашалёва, дзе ім удавалася.

Беларусы пачалі адказваць сваімі ўдарамі па бандах, часта іх трэплючы, штораз узмацняючы бяспеку беларускага насельніцтва. Такім чынам беларускае насельніцтва ў абароне сваіх бацькоўскіх загонаў і жыцця, апынуўшыся мімаходзь у саюзніках польскае камуністычнае ўлады, якая як след ацаніла гэтае і не бачачы іншага выхаду, як толькі пры дапамозе беларусаў закілзаць нацыянальную анархію ў Беласточчыне, звярнулася да СССР аб прыпыненні рэпатрыяцыі беларусаў з Беласточчыны (паспелі вывезці нешта 37 тысяч), як патрэбных для замацавання камуністычнай улады на месцы.

Прыпала беларусам не мала ўзнагарод за адвагу ў барацьбе з бандамі. Яны сталі не толькі камендантамі мясцовае міліцыі, але назначаліся і на вышэйшыя становішчы, як у міліцыі, так і ў войску, дзе лік іх сягае да 40 чалавек у маёрска-палкоўніцкіх чынах. У камуністычнай партыі яны займалі не малыя становішчы, як напрыклад Лашэвіч, Попка, Шчырба, Пугаўка, генерал Саўчук і многа іншых. Нам прыпала доля таксама ўзяць удзел у абароне беларускага насельніцтва Беласточчыны ад вынішчэння яго польскімі нацыяналістамі. Наш атрад Беларускай народнай антыгітлераўскай партызанкі дзеяў у ваколіцах Ратна, а потым Дзівіна, Жабінкі і на Драгічыншчыне.

Калі немцы пакідалі Валынь, пераходзячы за Прыпяць на Берасцейшчыну і Піншчыну, яны ўцякаючы пакінулі, не могучы забраць цераз Прыпяць, аграмадныя запасы зброі ў Ратне і Любяшове, што аўтаматычна сталася нашай партызанскай здабыччу да прыходу савецкай арміі. Мой атрад і Харэўскага (імя Нябабы, які дыслакаваўся ля Любяшова), абагаціліся першагатунковай зброяй. Усім хапіла па нямецкім аўтамаце, дасталіся лёгкія кулямёты, маса гранат, мінамёты...

Калі мы перайшлі потым на другі бераг Прыпяці, мы былі ўзброеныя па зубы, хоць цяжэйшую зброю, як мінамёты, кулямёты і шмат амуніцыі мусілі закапаць у схоўках. Пасля здабыцця Палесся савецкімі арміямі, мы дзеялі яшчэ больш года на месцы, а потым мой атрад перайшоў новую польскую мяжу, у Беласточчыну, ды дыслякаваўся ў Аўгустоўскіх лясах ля Райграда, а атрад Харэўскага перайшоў Буг каля Тарэспаля, ды дзеючы некаторы час у нашым астраўку Белападляшчыны, пасля перасмыкнуўся групамі за мяжу на Захад.

Мы ж асталіся на тэрыторыі Беларусі ў Беласточчыне аж да 1947 года, дапамагаючы мясцовым беларусам і іхняй самаабароне зламаць хрыбет нацыяналістычным бандам, наводзіўшым крывавы тэрор на насельніцтва. Пасля знішчэння бандамі некалькіх беларускіх вёсак разам з насельніцтвам, мы наладзілі з беларускімі міліцыйнымі адзінкамі кантакты, дзелячыся данымі аб польскіх бандах, ды ўзгадняючы дзеянні, прыняўшы джэнтльменскі дагавор не нападаць на сябе.

Такім чынам была знішчана найгразнейшая банда Бурага, пасля банды Жбіка і Роха. Некалькі банд мы знішчылі самі ў лясах Аўгустоўшчыны. Калі небяспека мінула і насланыя польскія вайсковыя атрады пачалі наступаць нам на пяты, прыйшлося, каб аберагчыся ад знішчэння, партызаншчыну канчаць, тым больш што на месцы ў бальшыні паўстала мясцовая адміністрацыя з беларусаў, хоць змусу пад камуністычнай вывескай, але з якімі мы былі саюзнікамі, а не ворагамі. Нацыяналістычны польскі вораг ужо дабіваўся імі самімі.

Пры адпаведнай скрытнай дапамозе ўдзячных суродзічаў на адпаведных становішчах і па іхных радах, наш атрад перасякнуўся адзінкамі праз нямецкія граніцы. Так што гэтыя ўгодкі беластачан і нашыя ўгодкі!

**Іван Перагуд,**
**ат[аман]**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XXV**

Гаворачы аб радзіме, бацька мой многа разоў кранаў жыдоўскую праблему. Лічыў ён, што ўсходняя Беласточчына гэта айчына не толькі беларусаў але таксама і жыдоўскага насельніцтва. Ацэньваючы пражываючых на Беласточчыне жыдоў, бацька лічыў, што жыды характарызаваліся адмоўнымі рысамі, з другога, аднак, боку ўважаў, што былі яны элементам вельмі патрэбным у жыцці беларускага сялянства. Многія разважанні бацькі аб жыдах, як бы выломліваліся з усходнебеластоцкага аспекта і датычылі ролі жыдоў у часы кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расеі і іх трагічнага лёсу ў перыяд гітлераўскай акупацыі:

„Ну, што касаецца жыдоў, то я ні знаю, калі яны паявіліся на нашуй зямлі. Мой дзед гаварыў, калі я быў яшчэ малы, што ўжэ яго дзед гаварыў, што пры яго дзецтве ў нас тут на Гродзеншчыне было много жыдоў. Ну то калі жыды былі ў нас пару соцен лет то значыцца, што наша зямля то ні толькі наша родзіна, але і для жыдоў то яна таксамо родзіна. Калі много жыдоўскіх пакаленняў тут нарадзіласё і памерло, то значыт, што наша зямля была і іх зямлёю. Ну можэ ні таксамо роднаю як для нас, бо бачыш жыды то зямлі не абраблялі, а толькі займалісе або гандлем або рэмеслом. Але бачыш, тут кругом па мястэчках былі і іхні бажніцы, і іхні могілкі, то значыт, што жыды ўраслі ў гэту нашу зямлю.

Ты знаеш, што калі немцы выбілі жыдоў і, бывало, заедзем у Нараўку, Нізбодку, Нарву, Ялоўку чы Гайнаўку і ні пачуеш на рынку іх гаргітання і ні пабачыш напісоў, то яксе было дзіко і нілоўко. Так мы да іх прывыклі. А знаеш што і ў нас былі такіе дурные людзі, каторы верылі, што як немец выб'е жыдоў, то нам будзе лягчэй жыці. Не панімалі, што немец выб'е жыдоў, а после то і за нас возьмецца. Ну, але трэбо сказаці, што некаторы нашы людзі то напраўду збагацелі на жыдах. Ну таму так сталасё, што жыды, ведаючы, што пойдут на смерць, пакідалі ў некаторых нашых людзей золато, ну то калі немец жыдоў выбіў, то гэтэ золато ў людзей засталосе. Акрамя гэтаго, калі толькі немец пахватаў жыдоў, то тые нашы дюдзі, каторы жылі ў мястэчках або пры мястэчках то накінулісе на жыдоўскі кварціры і вывалаклі з іх і мэблю, і пярыны, і часы, і пасуду, і адзежу, ну а кроме гэтаго то нават накінулісе на жыдоўскі могілкі і пачалі вырываць пліты, каторы надавалісе і на тачыдла, і на падмуркі. Вазілі па вёсках і прадавалі гэты пліты. Ну, знаеш хоць я і патрабаваў тачыдла, але такого з жыдоўскіх могілак то я купіцуь ні хацеў, калі прывёз у Бандары адзін міклашовец.

Ну, а што касаецца самых жыдоў, то я ніяк ні пайму, чом яны так паддалісе немцам. Калі яны яшчэ хадзілі па волі, але ўжэ насілі жоўты звёзды, то я ні раз гаварыў і нараўскім, і ялоўскім знакомым жыдам, каб яны ўцякалі ў лясы але яны гаварылі, што ад судзьбы ні ўцячэш і што іх згінота запісана ў Талмудзе. Ну і гэто была дурнота, бо калі б былі ўцяклі, то вядомо, што многі згінулі б, але многі і ўратаваліся б.

Ну а што касаецца санацыйнае Польшчы, то тады было вельмі многа багатых жыдоўскіх купцоў, дахтароў, адвакатаў але намнога больш было жыдоўскае бядоты: краўцоў, шаўцоў, рымароў, а нават печнікоў. Карчмы і лаўкі то таксамо былі ў іх руках. Много было между іх ашуканцаў. Бывало, купіт жыд ад мужыка збожэ або бульву і перапрадаст другому мужыкеві. Але перад гэтым то ўліе ў збожэ вады або ў бульву ўкіне пару каменяў, каб было цяжэйшэ. Але трэбо сказаці, што жыд то беларускаму мужыкеві даў напавер і водкі, і цукру, і газу. Вядомо, што адзін аддаў, а другі то і не аддаў. Значыцца, ашуквалі ні толькі жыды, але і нашы людзі таксамо. Ну, а кроме гэтаго то трэбо сказаці, што так як жыд, то беларус або паляк ні ўмеў пашыці адзежу або пашыці чобаты. Жыды былі вельмі добрымі майстрамі. Лепш жылі чым нашы людзі".

**Алесь Барскі**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 471. Аляксандр Целеш (ЗША) | — 60 дол. ЗША |
| 4 472. Язэп Арцюх (ЗША) | — 25 дол. ЗША |
| 4 473. Адам Цыплякоў (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 474. Мікола Галоўка (ЗША) | — 25 дол. ЗША |
| 4 475. Кастусь Мерляк (ЗША) | — 25 дол. ЗША |
| 4 476. Уладзімер Арашкевіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 477. Грыгор Казьлякоўскі (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 478. Васіль Шчэцька (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 479. Уладзімер Полеса (ЗША) | — 25 дол. ЗША |
| 4 480. Таіса Чабатарэвіч (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 481. Адольф Тубэрт (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 482. Кастусь Вайцякоўскі (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 483. Уладзімер Траскевіч (ЗША) | — 100 дол. ЗША |
| 4 484. Кастусь Верабей (ЗША) | — 15 дол. ЗША |
| 4 485. Марыя Дэмковіч (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 486. Мікола Галоўка (ЗША) | — 25 дол. ЗША |
| 4 487. Мікола Сьнежка (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 488. Мацвей Смаршчок (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 489. Міхась Каленік (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 490. Аўген Весялоўскі (ЗША) | — 20 дол. ЗША |
| 4 491. Мікола Латушкін (ЗША) | — 50 дол. ЗША |
| 4 492. К. Пуп (ЗША) | — 8 дол. ЗША |
| 4 493. А. Гушча (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 494. П. Нягода (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 495. С. Шэўчук (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 496. А. Іванюк (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 497. В. Мельнічук (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 498. Н. Говін (ЗША) | — 3 дол. ЗША |
| 4 499. Д. Швефел (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 500. Ю. Чыпучка (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 501. Р. Мартынюк (ЗША) | — 5 дол. ЗША |
| 4 502. Беларуска-Амерыканская Нацыянальная Рада | — 50 дол. ЗША |
| 4 503. Бел. Прав. царква Св. Юрыя | — 50 дол. ЗША |
| 4 504. Алесь Міцкевіч (ЗША) | — 10 дол. ЗША |
| 4 505. Надзя Касмовіч (ЗША) | — 50 дол. ЗША |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.**

## Хто нарадзіўся ў верасні

1. Праяўляе літаратурныя і журналіцкія здольнасці.
2. Ёсць элегантны і не любіць вылучацца сярод іншых.
3. Праяўляе вялікі ўплыў на асобы адменнага полу.
4. Лепш адчувае сябе на пасадзе падначаленага, чым начальніка.
5. Вызначаецца незвычайнай уражлівасцю і здольнасцю прадбачвання.
6. Разумны, думае пра будучыню, а яго ідэі незвычайныя.
7. Прагне стаць папулярным.
8. Хаця бывае крыху жорсткі, але яму можна давяраць.
9. Выдзяляецца дыпламатычнымі здольнасцямі і патрапіць быць добрым пасрэднікам.
10. Быстры, імпульсіўны з энтузіязмам — ахвотна працуе для грамадства.
11. Гуртуе вакол сябе многіх сяброў.
12. Сумненнямі і скептыцызмам даходзіць да праўды.
13. Усебакова таленавіты, абаронца праўды.
14. Адважны, незалежны — крочыць уласнымі сцежкамі.
15. Добры назіральнік, яго інтэлект высокі.
16. Адораны артыстычнымі здольнасцямі.
17. Жыццё праходзіць у цяжкіх намаганнях.
18. Упарты і працавіты, аднак незаўсёды дасягне здавальняючыя вынікі.
19. Сяброўскі, ахвотна дапамагае іншым. Далікатны, нескупы чалавек.
20. Кемлівы, але не трэба асцерагацца перавелічэння.




Астронку! Прысніўся мне страшны сон. Быццам стаю я на нейкім мосце. Ні то мост, ні то вуліца. Але ўнізе вада — ні то рака, ні то мора. Блакітная. А мост белы, з прыгожай белай балюстрадай. Я стаю на мосце і раптам бачу, што перада мной балюстрада абламалася. Быццам кавалак агароджы адведзены ўбок і я стаю проста над вадою. Гляджу далей — і другі кавалак балюстрады вісіць над вадою, а я не маю магчымасці сысці з гэтага маста. А берагоў ніякіх не бачу.

І раптам бачу на мосце лодку. Фактычна, гэта нават яхта. Яна носам пахілілася з маста ў ваду, а я падумала ў той момант, што цяпер мне будзе надта зручна сысці па ёй. Чамусьці я не шукала берага, а хацела сысці ў гэтую прыгожую ваду. Што мяне, Астроне, чакае?

**Аня**

Аня! У нейкай файнай, прыгожай справе вынікнуць цяжкасці. Пра іх сведчыць тое, што ты не магла трапіць да тае блакітнай вады, ды тая твая боязь, што адхілілася балюстрада. Аднак жа тая яхта, якая паявілася нечаспадзявана на мосце, дазваляе спадзявацца шчаслівага выйсця з цяжкой сітуацыі. Па ёй ты зможаш сысці ў блакітную, прыгожую ваду. Значыць, дасягнеш сваёй мэты.

**АСТРОН**




## Наш час

Атамныя ўзрывы —
Гэта смерці парывы,
Зямлю смуродам пакрываюць,
Бяду пашыраюць.
Каб пагубіць чалавека,
Барацьба ідзе спрадвеку
Электронна-механічная
І біялагічна-хімічная.
Людзі хочуць сябе пагубіць,
Адзін другога атамам біць.
Першыя людзі прапалі ў патопе,
Цяпер лезуць у пекла вароты.
Астанецца групка на полі,
Каб жыць у нядолі.
Пацукі будуць іхнімі сябрамі
І будуць правіць над намі.
Лепш каб да гэтага не дайшло,
Толькі ветрам размяло.
Але навошта ўзрывы на астравах,
На пустынях і морах?
Гэта каштуе
І нікога не ратуе.
А радыяцыя шкодная;
Мінула вайна халодная —
Навошта зямлю смуродзіць
І клопат наводзіць.
Нават за атамам мірным
Трэба сачыць пільна;
Чарнобыль гэта паказаў.
Бог нам асцярогу паслаў.
Мо таму, што Яго адракліся
І атамам заняліся.

**Мікалай Панфілюк**

# Дзіўнае мяса

У багабойных бацькоў Мар'і і Дарафея былі дзве дачкі Агата і Дамініка. Бацькі ніколі не спрачаліся пры іх, не гаворачы ўжо пра размовы аб цялесным каханні. Дзяўчаты выраслі і старэйшую з іх, Агату, аддалі за старога ўдаўца. Быў ён бяздзетны і меў шмат поля. Бацькі прыказвалі дачцы: „Слухай яго — калі памрэ, усё багацце табе астанецца". Пяць гадоў пасля Агаты выйшла замуж Дамініка. Праз год пасля шлюбу нарадзілася ім дзіця. Калі Агата заехала з мужам на хрэсьбіны, пачала дапытвацца ў Дамінікі, адкуль яна ўзяла такое прыгожае немаўлятка.

— Папрасі свайго мужа, каб табе зрабіў, — параіла ёй сястра.

Калі вярнуліся з хрэсьбін, Агата пачала прасіць мужа:

— Зрабі мне дзіця! Зрабі мне дзіця!

Стары Аноп ужо не мог і прыдумаў адлупцаваць жонку, калі тая будзе зноў прасіць, каб зрабіў ёй дзіця. І пабіў ён Агату да непрытомнасці, што аж тыдзень хварэла. Пасля гэтага спытала яна мужа:

— То заўсёды так робяць дзяцей?

— Так, — строга адказаў муж.

— Калі так, то я не хачу мець дзяцей.

Праз нейкі час памёр стары муж Агаты, пачалі да яе ехаць сваты. Прыязджалі пераважна кавалеры, якія хацелі разжыцца ў багатай удавы. Яна кожнаму гаварыла, што не хоча дзяцей. Усе ад'язджалі апусціўшы насы. Вядома — як жыць без дзяцей?! Але ў рэшце рэшт знайшоўся кемлівы хлапец. Як толькі Агата сказала, што не хоча мець дзяцей, ён адказаў:

— Калі не хочаш, то і не будзе.

Згулялі вяселле. Калі госці раз'ехаліся, маладыя пайшлі спаць. Агата адвярнулася ад Колі. Тады ён скеміў, што яна яшчэ не страціла дзявоцтва і не ведае, што такое каханне. На другі дзень заплаціў сябрам, каб тыя вечарам сталі пад вакном і вылі з гадзіну як ваўкі. Калі сужонства лягло спаць, пачулася выццё ваўкоў.

— Ой, што гэта? — спалохалася Агата. — Ніколі так не было...

— Яны да мяне прыйшлі, — сказаў Коля, — у мяне ёсць такое мяса, якое яны хочуць з'есці.

— Што будзе? Што будзе? — спалохана паўтарала Агата.

— Нічога, — адказаў муж. — У цябе ёсць такое месца, дзе я магу гэтае сваё мяса схаваць.

— Дык хавай хутчэй! — нецярплівілася жонка.

Так і зрабілі. Выццё сціхла. Так працягвалася чатыры ночы, а калі на пятую ваўкі перасталі выць, Агата стала сама выць. Пасля ўжо і ёй не трэба было выць — ужо ведала што такое каханне. Праз год нарадзілася дзяўчынка, а пасля яшчэ двух хлопчыкаў.

**Аўрора**

# ВІРАВАНКА З „Р"




1. частка лапаты, качаргі, 2. прырода, 3. моцны вецер, 4. весялун, непаседа, 5. рэактыўны снарад, 6. горад між Ольштынам і Эльблангам, 7. адтуліна, шчыліна, 8. паказвае фокусы, 9. прыгажун, 10. руль, 11. дзяржава ў цэнтры Афрыкі.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 29 н-ра:**

**Гарызантальна:** шпік, салон, Італія, ідал, Адамс, Іматра, Амдурман, прэса, абурэнне, трэнерка, Гаага, псіхолаг, фенікс, ласка, Льеж, паліца, рогат, Марс.

**Вертыкальна:** Вардар, космас, падмурак, кілім, ладан, Міёры, Смаленск, мадрыгал, пута, Эдэм, Анна, Сена, барометр, агарод, гектар, верас, Піліп, іслам.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх.**

**МІНІ-ДАВЕДНІК**

Арнета — мясцовасць у Эльблангскім ваяводстве.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest wyższa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Спеўнік Нупрэя Супонькі

## ТРЫ КАВАЛЕРЫСТЫ

Над зямлёю хмары ходзяць хмура
І заціхла бура на зямлі.
А арлы старой наменклатуры
Сабе гнёзды цёплыя звілі.

І глядзяць на гэта ўсё ўрачыста,
І прымаюць выбарчы кірмаш
Тры марксісты, тры кавалерысты —
Неразлучны, дружны экіпаж.

Хоць багацце праплывае міма,
Заключыць з усімі хоча мір
Наш абраннік, бацька наш любімы,
Наш непераможны камандзір.

На зладзюг ківае пальцам „тата",
Просіць ім гадоў па дваццаць пяць.
Ды чамусьці не расце зарплата
І заводы змрочныя стаяць.

Нішчаць мову ў гарадах і сёлах.
І ляціць за ёю наўздагон,
Як схацеў галоўны ідэолаг,
Баявы партыйны батальён.

У яго заўжды загад кароткі —
Калі трэба збэсціць БНФ,
Ёсць добраахвотнікі і сродкі
І яшчэ тэлевізійны шэф.

А над плоймай халуёў бяздарных
Сцяганосцам з будучыні ўзнік
Самы лепшы ў свеце гаспадарнік,
Малады, няўрымсны кіраўнік.

Ён нястомны, грозны і трывушчы
Для дзяржаўных неадкладных спраў.
Ён рашуча дачы ўсе у пушчы
Пад крыло надзейнае забраў.

І вядуць дарогай камяністай
У Расію край радзімы наш
Тры марксісты, тры кавалерысты —
Неразлучны, дружны экіпаж.

З НАРОДНАГА

## Прыпеўкі

Дзяўчыначка, мая люба,
Мядовая твая губа.
Адзін разок пацалую —
Тры дні ў роце мядок чую.

Не ругай мяне, маманя,
Не ругай так грозна, —
Ты сама была такая,
Прыходзіла позна.

Мне не трэба пуд фасолі,
Мне адну фасоліну.
Мне не трэба дзевак многа,
Мне адну вясёлую.

Цалуй раз, цалуй два,
Хоць і дзесяць — не бяда.
Цалавацца усім можна,
Толькі трэба асцярожна.

Падборку зрабіў
Янка Целушэцкі

# НІЎКА



Мал. Леаніда Разладава

## Радкі са школьных сачыненняў

* Чалавек — гэта дзіця прыроды, і таму ён павінен прыслухоўвацца да яе, пакуль не атрымае пашпарт.
* Усе вядомыя філосафы, нягледзячы на свае развазканні, таксама любілі добра і смачна паесці.
* Максім Багдановіч пісаў вершы ў адзіноце сваёй лірычнай душы.
* Фізік лірыку калі і брат, то толькі па маці.
* Люблю пісаць сачыненні на вольную тэму. Бо можна напісаць усё, што толькі мая левая нага пажадае.
* Завеі ў той год былі настолькі моцныя, што ніхто не мог дыхаць болей як дзве хвіліны.
* Калі б не нашая медыцына, то ніхто з пісьменнікаў не дажыў бы да сталага ўзросту і ўсе памерлі б маладымі.
* Мяркую, што „Вайну і мір" усё-ткі лягчэй было напісаць, чым прачытаць.
* Яна вырачыла вочы, але за акулярамі іх амаль не было бачна.
* Сабака брахаў на прахожага, як наш сусед.
* Купрын мог бы пазайздросціць таму, што зараз белы пудзель ёсць амаль у кожнай сям'і.
* Бураціна па нацыянальнасці італьянец.
* На гэтай карціне Пікасо намаляваў свой аўтапартрэт дагары нагамі.
* Дастаеўскі, як сапраўдны майстар, змог дастаць усіх сваімі творамі.

Выпісаў Уладысь Цвяткоў („Вожык")

## Гандзіны яйкі

Кожны чалавек марыць, — і багаты, і бедны, і ў марах — кімсьці лепшым сябе бачыць. Вядома, мары не заўсёды здзяйсняюцца. Рэчаіснасць бярэ сваё. Вось як было з Гандзяй...

Ішла Ганна Ю. на кірмаш, несла кошык яек.

— Ой, — думала Гандзя. — Разбагацею! Прадам яйкі і куплю ад Тадоры парасятка. Падрасце свінка, заганю яе да Андрэевага кныра, праз тры месяцы дачакаюся з шасці парасятак. Будуць свінкі, парсючкі. Свінак буду гадаваць ды зноў да кныра ганяць. Будзе многа парасят, буду мець многа грошай! Тады дакуплю з Хведарам зямлі, наймем парабкаў. Будуць рабіць усё тое, што ім загадаем. Хай каторы толькі запярэчыць! Паляцяць з маёнтка куды вочы нясуць, шукаць лепшага пана! Будзе ногі цалаваць ды прасіцца назад! Во так яго піхну нагою!..

Тут махнула Гандзя нагой, паказваючы, як будзе караць нядобрага слугу, і звалілася на кошык. З хрустам і пляскам паляцелі каштоўныя яйкі, на якіх думала разбагацець гаспадыня.

— Ой, што гэта будзе!? — загаласіла Гандзя. — Як мне вяртацца дадому? Ой, сустрэне мяне мой Хведар з пачастункам!..

Аўрора

## СМЕХ У САНАТОРЫІ
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Зайздросны муж не хацеў пусціць жонку самую ў санаторый. Пасля доўгіх просьбаў згадзіўся, але пад варункам, каб жонка прысягнула, што ніхто да яе не дакранецца вышэй падкаленных подвязак. Шчаслівая жонка паехала ў санаторый. Па некалькіх днях зайздросны муж сустракае сябра, які толькі што вярнуўся з санаторыя і бачыў там яе.

— Ну і як яна там сябе адчувае?

— Так, шчыра гаварыўшы, то яна хіба здурэла: носіць подвязкі на шыі.

***

Дзве сяброўкі гутараць у кавярні:

— Учора ішла я праз парк і згвалтавалі мяне.

— І што, ідзеш сёння на паліцыю?

— Не, сёння вечарам зноў іду ў парк.

***

У калгасе адбываецца сход калектыву. Павестка дня прадбачвае дзве тэмы: будова новай клуні на сена і будова сацыялізму ў краіне. Устае старшыня і гаворыць:

— Паколькі няма дошак, першы пункт лічу неактуальным і прапаную адразу перайсці да другой тэмы.

***

П'яны генерал выбраўся ноччу на паляванне ў лес. Ідзе разам са сваім ад'ютантам з вінтоўкай гатовай да выстралу. Раптам нешта заварушылася ў кустах. Генерал вокамгненна страляе. Ад'ютант бяжыць у кусты, каб праверыць меткасць стрэлу. Па хвіліне вяртаецца.

— Дакладваю, што пан генерал застрэліў карову.

— Карову? Гэта немагчыма! Нармальная карова не валочыцца ноччу па лесе; гэта была дзікая карова.

Ідуць далей. Зноў штосьці заварушылася і генерал зноў выстраліў. Ад'ютант бяжыць у кусты і па хвіліне вяртаецца:

— Нічога надзвычайнага, пан генерал. Гэта была дзікая баба.

## Чужы бацька

Калі Маньку аддалі замуж, яна нічога не ведала пра каханне. Калі ляглі спаць і муж захацеў кахацца, яна з плачам уцякла на двор. Так было кожную ноч. Знерваваўся муж і паехаў з жонкаю да свекраў. Сказаў у чым справа. Бацькі накінуліся на дачку:

— Ты чаму не спіш з мужам і не робіш таго, што ён загадае?!

— Як мне з ім спаць? — заплакала Манька. — Ён мне чужы бацька, а вы, мама, з сваім бацькам спаць лягалі. Адкуль я помню, то ўсё тату бацькам называлі.

Аўрора

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Я б для яе зрабіў усё. Сапраўды. Яшчэ яна і не падумала, як я спяшаўся ёй дагадзіць. Каму? Вядома, маёй жонцы. Варыў, прыбіраў, мыў бялізну, рабіў пакупкі. Калі нарадзілася дачушка, гэта я праседжваў з ёю па начах. Мыў пялёнкі, рабіў ёй кашку, выводзіў у вольныя хвіліны на шпацыр.

Калі я прыбягаў на працу, быў ужо такі стомлены, што не падыходзіў да працы. Хаця і працаваў я розумам, галавою, а не фізічна, то ў той галаве была нейкая муць, хацелася спаць. Пачаў я рабіць памылкі, якія вельмі хутка пачалі вылазіць наверх. Шэф папярэдзіў, што можа звольніць мяне.

А я кахаў сваю жонку горача, самаадданa, без ніякай логікі, цэлым сэрцам і таму ўсе абавязкі браў на сябе. Я ведаў, што мушу на сям'ю зарабіць, а апрача таго, зрабіць усё, што змагу, дома: жанчына — істота слабая, тым больш, што калі мы пажаніліся, яна ўжо была цяжарная. А пасля нарадзілася дзіцятка. Я баяўся, каб хаця ад стомленасці ў жонкі не перагарэла малако, таму і памагаў ёй як мог.

Сябры спачатку падсмейваліся з мяне: дурань, маўляў, распусціць бабу, тады ўжо нічога не зробіць. А пасля, калі ўбачылі, што парады не дзейнічаюць на мяне, пастукалі сабе па ілбе, вар'ят бацькам, і адвярнуліся, ужо мяне не чапалі.

Ну, а я... Зразумей, Сэрцайка, я быў сіратою. Нікога побач! З дзіцячага дома пайшоў у свет адзін, без ніякай дапамогі, без цёплага бацькавага слова, без матчынага пацалунку. Калі закахаўся, а пасля ажаніўся, думаў, што ўвесь свет стаў перада мною на калені. Нарэшце нехта ў мяне ёсць. Толькі мой, адданы на ўсё жыццё. Бо ж гэта — мая жонка.

Праўда, з яе цяжарнасцю не ўсё было ясна да канца, бо дзіця нарадзілася сямімесячнае, але з добрай вагой, ды ж яна сказала мне, што гэта маё. Ці ж меў я ёй не верыць, калі рашылася выйсці за мяне?

Я стараўся надалей як мог, а жонка пачала сумаваць па працы. Знайшлі ёй працу, а дзіця аддалі ў прадшколле. Доўга там не затрымалася, знудзілася ёй там. Шукала нечага цікавейшага. Калісьці прыходзіць і кажа, што знаёмы прапануе працу ў польскай дзяржаўнай фірме ў Капенгагене. Добра заробіць прынамсі.

Божа! Я б для яе зорку з неба дастаў. Вядома, што я нічога не меў супроць. Дзіцяці ўжо шэсць годзікаў. Дам рады. Едзь! — кажу.

Не ведаў я тады, што паехала, але ў якасці „дзяўчыны" таго знаёмага. Калі праз год вярнулася (яны выехалі і прыехалі разам), дык ужо засталася з ім. Дахаты прыйшла толькі дзеля таго, каб забраць дзіця і свае рэчы. Без ніякага жалю, без сораму кінула мяне, як апошняга бадзягу. Праўду сказаўшы, я нават не зразумеў, што сталася. Кінула мне толькі: „Дзіця і так не тваё, не пераймайся!" Я стаяў у аслупяненні, калі яна пакавала манаткі.

І толькі цяпер я адчуў сябе сапраўды адзінокім, кінутым, непатрэбным. Мяне ашукалі, ашуквалі ад пачатку! Што было рабіць? Я быў блізкі самагубства, але згадзіўся на развод. І так тыя дзве найдаражэйшыя мне істоты былі не мае: жонка, якую я надалей кахаў без памяці, і дачушка, якая выкачалася ў мяне на руках. Цяжка было ўсё гэта пераадолець. Такога падману я ніколі не спадзяваўся.

І цяпер я думаю, што мае сябры мяне слушна папярэджвалі. А ты як думаеш?

Андрэй

Андрэй! Сітуацыя была спецыфічная. Ты не спадзяваўся падману ад асобы, якую кахаў. А яна, бачыш, выйшла за цябе, каб яе дачушка мела бацьку. Не выпадала хадзіць з жыватом без мужа. Так многія робяць, калі трапяць на даверлівага, закаханага хлопца. Відаць, твае сябры бачылі яе хітрыкі і раней.

Зрэшты, ты рабіў усё для яе, бо кахаў. А яна? Ці ёй не шкада было цябе, калі ты, паўсонны, ішоў на работу? Ці для яе каханне абазначала толькі магчымасць браць?

Думаю, што ты зрабіў добра, даўшы ёй развод. Жыццё з такім подлым чалавекам не мела б глыбейшага сэнсу і перспектыў.

Я разумею твой боль, аднак жа з чужога свайго зрабіць цяжка. Час лечыць раны. А апарыўшыся адзін раз, наступным разам выбераш сабе лепшую дзяўчыну.

Сэрцайка